

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 40 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 50 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 4-5 (186-187) — Нядзеля 31 студзеня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8



**АНДРЭЙ ЛІВІЦКІ**
**ПРЭЗЫДЭНТ УКРАІНСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**

**памёр 17 студзеня 1954 году ў Карльсругэ на 75 годзе жыцьця й пахаваны ў Мюнхэне на Вальдфрыдгоф 21 студзеня 1954 году.**

**Паведамляючы нашае грамадзянства аб гэтай сумнай падзеі, мы так сама прылучаемся да глыбокай жалобы па памерлым Прэзыдэньце Украінскай Народнай Рэспублікі Сьв. Пам. Андрэю Лівіцкім і выказваем братняму нам Украінскаму Народу нашыя глыбокія спачуваньні.**

# Эміграцыйнае выданьне твораў Янкі Купалы

**Як мы ўжо паведамілі ў папярэднім нумары газэты, Выдавецтва «Бацькаўшчыны» ўжо заканчвае друкаваньне вялікага тому (звыш 500 балонаў) выбраных твораў найвялікшага нашага паэты й нацыянальнага прарока — ЯНКІ КУПАЛЫ. Зборнік будзе папярэджаны грунтоўным уступным артыкулам аб жыцьці й творчасьці Купалы, прадмовай ад Камісіі, што склала зборнік, кароткімі даведкамі аб Купале ў ангельскай, францускай, нямецкай і гішпанскай мовах ды бібліяграфіяй друкаваных твораў Купалы й важнейшых літаратурных працаў аб Купале. У зборніку будзе на адмысловай паперы некалькі фотаздымкаў Купалы з розных пэрыядаў ягонага жыцьця і некалькі іншых ілюстрацыяў, зьвязаных зь ягонай творчасьцю. Зборнік будзе мець прыгожую каляровую вокладку.**

**Кніга будзе названая назовам аднаго з Купалавых зборнікаў — «СПАДЧЫНА», так як і сама кніга мае даць аснаўную Купалаўскую спадчыну, усё найвартасьнейшае зь ягонае паэзіі ды ўсё тое, што зьяўляецца найбольш характэрным для ягонае творчасьці з гледзішча літаратурна-мастацкага.**

**Зьмешчаныя ў зборніку творы разьбітыя на дванаццаць вялікіх разьдзелаў, назовы якіх, падобна як і назоў усяе кнігі, ня прыдуманыя Камісіяй ці Выдавецтвам, але зьяўляюцца ўзятымі з назоваў Купалавых зборнікаў, разьдзелаў у гэтых зборніках ці навет паасобных вершаў Купалы. Назовы гэтыя найлепей і перадаюць агульны зьмест ды характар твораў, гэтымі разьдзеламі абнятых. Ня гледзячы на разьбіцьцё ўсяго матар'ялу аж на 12 разьдзелаў, кніга ўсё-ж намагаецца трымацца й некаторай хранолёгічнасьці. Пачынаецца яна пачатковымі вершамі I разьдзелу, калі Купала яшчэ чуўся больш паэтам свайго сяла ды селяніна чымся паэтам усяго народу (тут сканцэнтраваныя вершы пары «Жалейкі» й часткава «Гусьляра»), а замыкаецца ідэялягічны цыкль разьдзелам VII — «Безназоўнае» (першы пэрыяд творчасьці пад бальшавіцкім панаваньнем). Разьдзелы II-V — гэта нарастаючая сьведамасьць паэты сваёй ролі пясьняра-прарока, якая заканчваецца апогеем — разьдзелам «На сход». Гэты разьдзел зьмяшчае наймацнейшыя вершы Купалы зь ідэялягічнага гледзішча і ён, дзякуючы гэтаму, становіцца цэнтральным архітэктанічным узвышшам цэлае кнігі. Пасьля «Безназоўнага» ідуць разьдзелы ўжо спэцыяльныя.**

**Дакладны зьмест і структура паасобных разьдзелаў такія:**

**I. «НАША ВЁСКА». Тут Купала яшчэ паэта вёскі, сялянства, вершы маюць характар яшчэ вершаў з пары народніцтва з тыповым для яго бедавальніцтвам ды сэнтымэнтальным расчульваньнем над доляю «мужыка». Разьдзел пачынаецце першым друкаваным вершам Купалы «Мужык», канцавая пуанта — «А хто там ідзе?»**

**II. «ПА МЕЖАХ РОДНЫХ». Тут сканцэнтраваныя вершы аб Беларусі, як краіне, з апісаньнямі пораў году, сэзоннае працы і г. п. Таму й канструкцыя гэтага разьдзелу — календарная хранолёгія, пачынаючы вясною, а канчаючы зімою ды прадвесьнем.**

**III. «ЗАБРАНЫ КРАЙ». Тут сабраныя самыя пэсымістычныя вершы Купалы, паказваючыя найбольш цёмныя бакі долі й палажэньня беларускага народу й ягонае бацькаўшчыны, як «забранага краю». Разьдзел гэтак і пачынаецца вершам «Забраны край», а замыкаецца вершам «Цару неба й зямлі».**

**IV. «УЖО ДНЕЕ». Вершы, у якіх ноты веры й аптымізму прабіваюцца ўжо праз сумныя абразы й пераходзяць у мажорныя заклікі да змаганьня. Яны пачынаюцца вершам «Ужо днее», а канчаюцца поўным веры й надзеі вершам-заклікам, вершам-одай на чэсьць Беларусі — «Маладая Беларусь».**

**V. «НА СХОД». Як ужо зазначалася, тут сабраныя наймацнейшыя зь ідэялягічнага гледзішча вершы Купалы, вершы-заклікі, вершы-прызывы да вызваленьня, якія замыкаюцца вельмі глыбокім вершам «Паўстань з народу нашага, Прарок».**

**VI. «СВАІМ І ЧУЖЫМ». Глянуўшы на свой край, пясьняр зьвяртаецца ў гэтым разьдзеле да людзей нашага краю, да прыязных і варожых суседзяў, да сваіх і чужых. Сюды-ж улучаныя й вершы, прысьвечаныя папярэднікам і сучасьнікам Купалы, пачынаючы ад Шэўчэнкі, а канчаючы Ц. Гартным. Канцавая пуанта гэтага разьдзелу — другі Купалаў гымн (побач з «А хто там ідзе?»), які стаўся й беларускім гымнам нацыянальным — верш, прысьвечаны «Нашай Ніве», «Не пагаснуць зоркі ў небе».**

**VII. «БЕЗНАЗОЎНАЕ». Тут ужо ападае ідэялягічнае напружаньне, паэта трапіў у ўмовы, якія не пазваляюць шчыра, адкрыта выказацца (хоць ня раз і гэтта прабіваецца бунт супраць варожай Купале й ягонаму народу бальшавіцкай сучаснасьці).**

**VIII. «ШЛЯХАМ ГАДОЎ». Тут вершы ад «Жалейкі» аж да савецкага пэрыяду, у якіх Купала робіць абрахунак з самым сабою, выказвае пагляд на сваю ролю й заданьні, як паэты, ды робіць ацэну сваей творчасьці й літаратурнага мастацтва наагул. Разьдзел пачынаецца уводным вершам з «Жалейкі» — «Я не паэта» ды заканчваецца вершамі «На суд» і «Шляхам гадоў».**

**IX. «ДЛЯ ЯЕ». Тут сканцэнтраваная найлепшая Купалаўская лірыка каханьня ўключна з цудоўнай лірычнай паэмкай «Яна і я».**

**X. САТЫРА. Разьдзел зьмяшчае найлепшыя сатыры й сатырычныя байкі Купалы пераважна палітычнага й нацыянальнага зьместу.**

**XI. ПАЭМЫ. Тут зьмешчана 10 найлепшых і найбольш характэрных для Купалы кароткіх паэмаў, сярод якіх і шырака ведамыя ды цэненыя чытачамі «На Куцьцю», «Курган», «На папасе», «Адвечная песьня», «Магіля Льва».**

**XII. «СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ». Мала ведамы беларускаму чытачу высокамастацкі паэтыцкі перапеў Купалы гэраічнага беларускага эпасу з XII стагодзьдзя — «Слова аб палку Ігаравым».**

**Калі будзе ставаць месца, на канцы будзе зьмешчана яшчэ драматычная паэма «Сон на кургане» і разьдзел, у якім будуць пададзеныя пераклады Купалы з твораў іншых паэтаў.**

**Гэтак у вагульным будзе пабудаваны вялікі том выбраных твораў Янкі Купалы, які ў васнаўным зьмяшчае ўсё найлепшае з Купалаўскае паэтычнае спадчыны, які пакажа нам і заходняму сьвету фактычна цэлага Купалу, як незраўнанага мастака беларускага слова, як натхнёнага прарока адраджэньня й вызваленьня Беларускага Народу.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Беларускі партызанцкі рух

Бэльгійская газэта «Ля Лібр Бэльжык» за 3 студзеня сёлета зьмясьціла зацемку п. н. «Галоўная гаспода падпольнага руху ў Славаччыне высылае свайго эмісара ў Вашынгтон», якую падаём у скарачэньні:

«Падпольная галоўная гаспода, што знаходзіцца ў усходняй частцы Славаччыны, кіруе змаганьнем супраць камунізму ў сатэлітных краінах, а таксама і ў самым СССР. Гэтак паінфармаваў амэрыканскую прэсу адзін Славак, высланы зь місіяй у Вашынгтон.

Ён быў прадстаўлены перад прэсай, як «Міхал Баар» сп. Сьцяпанам Крайновічам, старшынём Нацыянальнага Камітэту Вызваленьня Славаччыны. Міхал Баар заявіў, што 100.000 партызанаў, якія падпарадкаваныя вышэйўспомненай галоўнай гасподзе, актыўна змагаюцца супраць камунізму і складаюцца, апрача славацкіх прадстаўнікоў, таксама з прадстаўнікоў Усходняе Нямеччыны, Беларусі, Украіны, Мадзяршчыны ды Польшчы. На пытаньне, ці няма ў гэтым ліку чэскіх партызанаў, Баар адказаў — не. Далей ён дадаў, што галоўнай гасподай быў навязаны кантакт з румынскім падпольным рухам.

Таксама паводля ягоных інфармацыяў, галоўная гаспода падпольнага руху атрымала розныя інфармацыі што да партызанскага руху, які існуе паза межамі Беларусі й Украіны. Малады Славак ужо выканаў 20 місіяў сувязі паміж Славаччынай і вольным сьветам і сьцьвердзіў, што галоўная гаспода была зарганізаваная ў 1951 годзе пасьля доўгіх спробаў, якія пачаліся ў 1945 годзе».

Што беларускія партызаны апэруюць ня толькі ў Беларусі, але й на чужых тэрыторыях, паняволеных бальшавікамі, апрача вышэй пададзенае інфармацыі прадстаўніка славацкага партызанскага руху, сьцьвярджае й інфармацыя аднаго нямецкага маёра, які нядаўна вярнуўся з савецкага ваеннага палону. Ведамы амэрыканскі журнал «Лайф» у нумары за 9 лістапада 1953 г. зьмясьціў артыкул, абапёрты на інфармацыях гэнага маёра. Там між іншым чытаем:

«Маёр правёў шмат часу ў лягерах прымусовай працы на Захадзе Расеі (чытай: Савецкага Саюзу — Рэд.). Ён сказаў, што там былі раськінутыя паўстанцкія групы, што апэравалі ў гэтым вялізарным земляробскім раёне. Адна з найвялікшых, ведамая пад назвай «Чорны Кот», апэруе ў Украіне».

Як ведама, пад назвай «Чорны Кот» выступала вялікая беларуская партызанская група, што яшчэ нядаўна дзеіла ў заходняй Беларусі й знаходзілася пад камандаваньнем правадыра беларускіх партызанаў генэрала Вітушкі.

# Гішпанія бесьпячнейшая

Вайсковая падкамісія амэрыканскай палаты рэпрэзэнтантаў прыгатавала праект для ўраду, паводля якога галоўная гаспода амэрыканскіх збройных сілаў у Эўропе, у Фонтэнэблё ў Францыі, павінна быць перанесеная ў Гішпанію. Падкамісія абгрунтоўвае свой праект наступным:

«У Гішпаніі да нас, Амэрыканцаў, прыязна адносяцца. Ня трэба рабіць уражаньня, што мы хочам накінуцца францускай нацыі, якая заклапатаная сваімі нутранымі праблемамі, і дзе наяўнасьць нашай галоўнай гаспады ёсьць клапатлівай для супольнасьці. З увагі на станоўчыя дачыненьні Гішпанцаў, стратэгічнае палажэньне Гішпаніі, вялікадушнасьць і добрую волю яе народу — мы павінны перагледзіць нашыя вайсковыя пазыцыі, каб выцягнуць усе тыя карысьці, якія нам прапануюцца».

Як ведама, Французы сваей няпрыхільнай палітыкай да Амэрыкі й прабываньня ейных збройных сілаў на тэрыторыі Францыі могуць напасьледак дамагчыся таго, што Амэрыка махне рукой на Францыю, пакінуўшы яе собскаму лёсу. Няма патрэбы й даводзіць, што такі крок Амэрыканцаў у першую чаргу выйдзе на шкоду самой-жа Францыі.

### СУД НАД МЮЛЬЛЕРАМ-ХАРУНЖЫМ СКОНЧЫЎСЯ

22 студзеня сёлета закончыўся ў амэрыканскім судзе ў Франкфурце судовы працэс над адным зь вядучых дзеячоў расейскай фашыстаўскай арганізацыі НТС Мюльлерам-Харунжым, які быў лейтэнантам чырвонай арміі, а ў 1948 г. перайшоў на Захад, і над ягонай жонкай Немкай, абвінавачаных у шпіёнскай дзейнасьці на карысьць Савецкага Саюзу. Суд даказаў Мюльлеру-Харунжаму віну й засудзіў яго на 23 гады турмы. Фактычна-ж ён будзе адседжваць толькі 14 гадоў. Ён быў знойдзены вінаватым за тры розныя праступкі, а таму будзе адбываць адначасна тры розныя кары. Ягоная жонка засуджаная на чатыры з палавінаю гады турмы.

### НОВАЕ ПАМЕШКАНЬНЕ РЭДАКЦЫІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» і БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА КАМІТЭТУ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Рэдакцыя й Адміністрацыя «Бацькаўшчыны», а таксама Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне перанесьліся на новую гасподу:**

**(13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude.**

**(з галоўнай чыгуначнай станцыі 5 мінут хады ў кірунку Гэтэпляц).**

**Усю карэспандэнцыю для Рэдакцыі й Адміністрацыі «Бацькаўшчыны», як і для Беларускага Нацыянальнага Камітэту трэба цяпер накіроўваць на пададзены новы адрас за выключэньнем матар'ялаў для друку ў газэце, якія й надалей найлепей слаць на адрас Галоўнага Рэдактара.**

# Літаратурны Дадатак

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА

## Прыйдзе час і на песьню

**Сябром-Паэтам**

### ІМКНІ, ПАЭТ!

Яшчэ ня знойдзены жывымі
натхнёнай песьні ідэял.
Імкні-ж, паэт
разьліся ў гымнах!
Дзіўны, сьвяты ці чуеш пал?
Няхай у тахт тваіх сугуччаў
і не трапляе сяньня сьвет,
Імкні!
Ці-ж раз,
адзін,
над кручай
тварыў ты ўжо свой запавет?
Ці-ж раз у белай поўні росквіт
ты верш, па слове слова, куў,
ці раз агонь распальваў боскі
у целе з гліны і пяску?
Імкні!
Ці-ж сум агністым джгалам
цябе ня джгае да крыві?
Ці мо' яшчэ табе замала
у нашай мове слоў жывых?
Іх шмат як зор, як зерняў жвіру
на срэбных плёсах нашых рэк.
Вучы-ж прысталых дыхаць шырай,
шугаць, за Родны Край гарэць!
Імкні!
Лаві ў крылатым лёце
чар слоў, што мглою растае...
Хай знае сьвет:
з усіх сьмяротных
іх дакрануў адно паэт!

### КАБ ПАЭТЫ МАГЛІ

Срэбным каўшом цішыню
п'е за аселіцай месяц.
Плача ў тумане канюх...
Вершы ты йрваць можа вышаў?
Любы паэт!
Не растуць
вершы яшчэ на канавах,
на прытаптаным пяску
тропаў вузкіх і каравых.
Недзе ў глухім гушчары
папараць казачным птахам
крыльлем лапоча ў старых
елках...
Туды лепей плакаць
рыфмамі сяньня ідзі.
Гэнам твой плач зразумеюць
совы ці дзед-вадзянік,
дзівы ці гадзіны зьмеі.
Іх, як калісьці Арфэй,
ты й зачароўвай песьняй.
Сьвету ня ты ў галаве,
іншыя песьні ён весьціць...
Вось, каб паэты маглі
дзіды ці полымя коўтаць,
конскія жарты смаліць
перад карчомным натоўпам,
сажай упэцкаўшы твар
з собскай душы скамарошыць, —
мелі-б удосыць пітва,
ежы,
і славы,
і грошы...
Блазнаў вясёлых зямля
мае ў пашане і сяньня.
. . . . . . . . . . . . . . .
Ці-ж каму ў сьвеце баляць
крыўды чужыя і раны?

### ХОЦЬ ВЯСНА

Паддалася,
не бяз бою,
сьцюжа, зьбегла за мяжу.
Ужо зарой, ля вадапою
за вясною коні йржуць.

Тыдзень, два —
й на крыльлі сьмелым
яе ластаўкі прыймчаць.
Белай цьвільлю замяцеліць,
загарыцца малачай,
задыміцца жоўтым пылам
лог,
дзе пёраў залатых
нагубляе сонца, крылы
абтрасаючы з вады,
паплывуць чаўны хмурынаў
па нябёсных паплавох...
(Мо' растае крыгай сіняй
сум, што ў сэрцы дзесь залёг?).
Юр'я весела на выган
пугай статак пажане,
запяюць узноўкі шчыглы
— не паэты —
аб вясьне.
Запяюць,
аж гулам сьпеўным
наліецца ўся зямля.
Й толькі нашы песьні, пэўна-ж,
тут лазой не запыляць.
Ім ня стане
йрдзяных раньняў
над растаньнямі сьцяжын,
ціхіх плёсаў серабраных,
белых дзічкаў на мяжы...
Прагна сочачы вачыма
першы, шпаркі ключ гусей,
хоць вясна, —
тугой няшчымнай
захлынемся мы усе.
Ды няхай...
За год, за дваццаць,
але будуць у вагні,
ў пазалоце нараджацца
і канаць —
і нашы дні!

### ЗАРАНА

Дадзела мне ў бубны і літаўры
нямоўчна біць,
сябе ды іншых суцяшаць.
Чакае й на мяне калісьці, недзе, старасьць,
хоць я й паэт, і я — звычайная душа.
І мне жадаецца уцехі і спагады,
і я-б хацела выплакацца ў смак
па тым, што некалі я называла «радасьць»,
а заўтра «смуткам» назаву, ці як...
Даволі!
Іншы хтось трапеча хай на ветры!
Хоць кроў, як вар бурліць, —
нам сьвету не сагрэць.
Гарбар із воўчымі вачыма мэтрам
яго ўжо вымераў, мармычачы
«памрэ».
І сіл у нас няма прагнаць за рэкі
яго і тую, што усьлед за ім брыдзе.
Ну што-ж,
пара і нам, відаць, самкнуць павекі
і лагаўя шукаць, як кажны зьвер.
. . . . . . . . . . . . . . .
Навісьнуць нізка шэрыя галіны
ялін над намі...
шыльнік, як дажджом,
прысыпле цела,
безьліч носаў сініх
у зоры разатчэ наш новы дом.
І ціха будзе ў нас, і супакойна,
хай лютуюць вакол пажары і вайна.
Хай ці адна яшчэ зямлю угноіць
крывавая
ці восень,
ці вясна...
Ды не!
Не!
Не!
Зарана зашывацца
у логава на сон,
кідаць у горы сьвет.
Багаславёныя змаганьне, боль і праца!
Празь іх, хоць плачам мы, ірвемся —
**ды жывем!**
Нявесела,
а будзем у літаўры,
у бубны біць,
сябе ды іншых суцяшаць,
дарма, што нас усіх захлёствае варам
туга,
што і у нас — звычайная душа.

### НЯ ТАК ЛЁГКА

**Прысьвячаю пакліканым і непакліканым крытыкам**

Ня так лёгка гаркою, агорклай агудай
змусіць нашыя вершы
навечна заплесьнець.
Яшчэ доўга блукаць
па гасьцінцах мы будзем,
раздаваць пакрысе
свае сэрцы у песьнях.
Ці адна яшчэ ў сьвеце вясна
у далоні
нам ружовых вішнёвых
пялёсткаў насыпле.
Ці ў вадзін яшчэ верасень
залатаклённы
мы душою
і сэрцам трывожным уліпнем?
Ці ня ўдосыць наплачамся мы па краіне,
як уздымем у песьнях Яе
на узвышшы,
ці ня раз не паэты
апырскаць сьлінай
будуць нас, або й славай ахутваць пышнай?
Ды хай вусны праклёнамі ў раны калечаць,
ці хвалой захлынаюцца крытыкі сьвету, —
што нам
іхнае ройна-шумлівае веча?
Не забраць ім ні неба,
ні сонца ў паэтаў.
Ані неба, ні сонца,
ні сьлёз, ні усьмешкаў,
ні ўсяго, што нам кажа
успыхваць і гаснуць.
Тут, у сьвеце злачынным,
у сьвеце бязгрэшным
не яны, —
мы аднойдзем няўлоўнае шчасьце!

### ЛЕПШ ПІЦЬ ДА ДНА

Лісьцё — віхор іржавых зор —
над шахаўніцай вуліц кружыць...
Каб як лучыць у іхны хор
і нашым душам недалужным!
Каб навучыцца пазіраць
на ўсё, што робіцца —
з узвышшаў,
з усьмешкай боль пякучы браць,
сьпяваць,
хоць крыўда сэрца крышыць.
Мінаць калекаў і сьляпых,
як навакольле, — зь лёгкім сэрцам,
і ня кідацца ніцма ў пыл
ні прад жыцьцём,
ні перад сьмерцяй!
Ці-ж гэтак цяжка ізь лісьцём
пусьціць на вецер і пачуцьці?
Пачуцца тут адно гасьцём
нічым ня зьвязаным,
ня скутым?
Тады —
жылі-б мы, балазе,
і парасталі ў поўсьць і сала,
і сьпін ня гнулі-б у тузе
ні прад Хрыстом,
ні прад Баалам.
Адно —
ці-б гэта нам дало
дасюль нязнойдзенае шчасьце,
ці з сэрцаў сьпінула-б далоў
усё, што ўсьцяж яго нам засьціць?
І ці тады,

**(Заканчэньне на 5-ай балоне)**

---

тыя — займелі яе, а былі-ж зусім такія нядошлыя — ці мала іх у першай сваёй, царскай турме Савоста бачыў. А глянь — самі пачалі іншых у «козы» ўпраўляць. І хоць большая сіла аказалася — пад Варшаву адкаціла, ды ізноў, зыбраліся й з сваёй — адпёрлі, пакуль тут, каля Баркаўцоў, дзьве сілы вочы-на-вочы адна перад аднэй ня спыніліся. А ў нас — дзе ў нас сіла? Як і ў Савосты цяпер на печы — няма яе. А як безь яе? І як яе набрацца, як зьберці?

Гэтак, пастарэцку крэкчучы, варочаўся ў думках на печы Заблоччык, дзелячыся імі толькі з Зубрыцкім, як забягаўся часчасом той нядужага даведацца. А больш дык сам-на-сам із думкамі часаваць даводзілася. Мала стыкалася Альжа ў хаце за работаю гаспадарскаю, цяжка даводзілася ёй, небарачцы, за хворым гаспадаром. Балазе яшчэ парабка наняла адразу-ж, як Савосту ўзялі былі, бо як аднэй было даць рады. А як вярнуўся, ды не да работы — як і адпраўляць таго парабка было? Праўда, парабак, відаць, ня вельмі ўдалы рэчыўся — во й Каляды на носе, а ўдваёх з Альжаю ніяк малацьбы не даб'юць — калі гэта было ў Заблоцкіх? Аж неяк раз і зь печы, а дагледзелася Савосту, што нек ня так, як на гаспадыню, парабак той на Альжу пазіраць вучыцца... Ня ведаў датуль пачуцьця зайздроства Заблоччык — бяз бою Альжа яму далася, ня было ў яе ніколі нікога, апрача яго, ня было ў яго ніякага супарата, другога залётніка, ад якога трэ было-б дзяўчыну адбіваць. І пасьля, як жонкаю сталася, таксама ніколі ніякага прыклепу ня было, каб на жончыну сувернасьць-нясувернасьць нат уздумацца... А гэта... І што за малацьба ў іх там нескончоная? Якім гэта цэпам там ён махае? І перад Калядамі зьлез зь печы Савоста ды парабку сказаў, што па сьвятах ужо больш ня трэба яго — самі рады дадуць. Сыкнуў нат на Альжу, што зайкнулася — нядуж-жа яшчэ. А як па Калядох сам із цэпам тым пайшоў — як рукой адняло. Праўду кажуць: работа — лепшы лек нашаму чалавеку. Асабліва баркаўскому чалавеку, якога ўсёроўна і калом не заб'еш, ня тое, каб якімі «козамі» ці «двадзесьця пеньцямі».

Нарэшце і Клемка-камісар ізноў у Баркаўцох паявіўся, на Вялікдзень гэтым разам. І зноў да Савосты, як да роднага, як-бы й ніякіх тых «дыскурсіяў» ня было ў іх. А як сам Савоста на тое напамянуў — зусім іноси павёў Язучок. Іншая цяпер «нацпаліціка» выйшла, казаў, інтэрнацыянал (умеў ужо добра вымаўляць тое кручанае слова) — то інтэрнацыяналам, але-ж і нацыянал — нацыяналам, — тымчасам, пакуль што, пакуль той «васпраніт рот людзкой». Правільна, не раськідаць, а складаць трэба сваё, роднае, нельга безь яго — тымчасам, пакуль што. Дык якраз «адпадае» тое, на чым яны апошні раз із Савостам зацяліся былі, і пататоў няма чаго Савосту, «старому змагару», у Баркаўцох марнавацца. Што праўда, дык і тут яму якраз работа выйсьці можа, бо-ж і на «дзярэўню» цяпер новы пагляд, і ёй «новы нэп» мае быць. Праўда, на пытаньне Заблоччыкава — «а што гэта за Язэп — новы нэп?» — ня мог добрага адказу Язучок дабраць. Ну, значыцца, трэба людзям крыху дыхаць даць — пярэдых. «Дзярэўні»-ж асабліва. Цёмная яна, дзярэўня, «кулітуры» ёй трэба, школку трэба — і якраз родную, беларускую-дзеравенскую школку...

Аж падскочыў Клемка-камісар, даведаўшыся ад Савосты, што калішні настаўнік іхны Зубрыцкі тут, у Баркаўцох, даўно ўжо і бяз усякае «нацпаліцікі», а больш і не хаваючыся, гэтую беларускую школку дзяўбе. Закарцела яму адразу-ж да гэтага «старога» і, хіба-ж, таксама «змагара» — «змагаўся»-ж калісь няблага сваймі «лапамі» і з Клемкавым зашытым розумам — які-ж дурань будзе няўдзячны яму за тое цяпер? Ды ня ведаў настаўнік новага кірунку думак свайго безнадзейнага калісь вучня, і гэтым разам таксама зашыўся недзе, каб на вока яму ня ўспасьці — мала што, мо яшчэ й цяпер яму пад надвор'е ад тых «лапаў» сьвярбіць... Ня проста было знайсьці яго, але Клемка аж быту не даваў Савосту з гэтым, і нарэшце-ткі адшукалі. Несамавіта выглядаў настаўнік перад калішнім сваім вучнем і доўга ніяк ня мог ухапіць усяе тае зьмены ветру. Але як ухапіў, дык адразу-ж і захапіўся, і ўжо з энтузіязмам прыняць быў гатоў прапанову Клемкаву да абудвых — Заблоцкага й Зубрыцкага — выбрацца адсюль «на шырокія воды», да «нацработы» ў «рэспубліканскім цэнтры». Ды Савоста аступіў — пасьпеецца з козамі на торг, пачакаем яшчэ, прыгледзецца трэба, як яно запраўды ў вас пойдзе з «нэбамі» гэнымі — маем час. І меў-ткі ўплыў на настаўніка, згадзіўся й той, хоць ужо зусім быў угледзеў новы прывід «першага разьдзелу» свайго за Клемкавымі маляванкамі. Дый гэты не ўзлаваўся нат так, як раней, ад'яжджаючы назад у свой «цэнтр», раіў адно «думаць і надумляцца», а ён іх ужо так не пакіне...

І праўда — ад тых дат учашчаць пачаў у родныя Баркаўцы камісар, аж нарэшце мала ня штосыботы — шась і тут. Собскіх машынаў тады яшчэ, праўда, у камісараў не вялося, але казённая каламажка заўсёды знаходзілася да Клемкавых падарожжаў. Пэўна-ж, былі і глыбейшыя прычыны, што цягнулі яго ў Баркаўцы. Не раськіваўся яшчэ «нэп» той і паснавата жылося нат камісарам у горадзе, а ў Баркаўцох хоць і ...ўнаеды, а зь ядою — дай Божа ўсякаму. Дык найбольш падгадоўвацца і ўчашчаў сюды Клемка. І гадаваўся добра ў бацькавай хаце, нагадоўваўся на запас, на горад. Але потым больш такі Альжына гадаваньне-частаваньне ў Саваставай хаце ўпадабаў, усё часьцей і часьцей туды навядаючыся ды ўсё даўжэй і даўжэй там заседжваючыся. Няма чаго казаць, гаспадыня з Альжы была закатная, умела і прыгатаваць і пачаставаць з далікатнымі шляхоцкімі ўходамі й прымусамі, што пераняла з бацькаўскае хаты — адно слова, «кулітурная гаспадыня», хваліў Клемка. І рабіўся з гэтае Альжы ці не наймацнейшы магнэс, што цягнуў камісара ў Баркаўцы — ды ня толькі, як з гаспадыні... Адно, што Савоста ў сваім заўсёдным занятку падзапушчаную крыху гаспадаркаю не дагледжваў таго, што ня так даўна за тым парабком хоць і зь печы, а дагледзеў. Дый забыўся ўжо зусім на ўсю тую прыгоду з гэтым парабком (дый што за прыгода? Нічога-ж такоўскага там яшчэ й ня было...), і па жончынай сувернасьці-нясувернасьці ізноў і шманаць ня думаў.

Гэтак няшчасьце й звалілася зусім неспадзявана, як заўсёды гэта валілася нядоля на Заблоцкіх фамілію. Зрана нек хапілі курчы Альжу (што пакруглеўшы яна была апошнім часам — так і прайшло гэта паўз Савостава вока), а пад паўдня й парадзіла яна — ды ізноў, як тады, няжывое, а за гэтым зараз-жа й сама з душою да Бога... Ашаламанеў зусім Заблоччык. Ведаў добра, што ня ён тут прычынаю — ад тых дат, як першанец іхны няжывым на сьвет прыйшоў, такі страх перад дзецьмі апанаваў і Савосту і, здавалася, Альжу, што як мага абміналі абое, каб дзеці мець. Дык няўжо страх гэны ў Альжы перамогся нечым — ці бо — некім? І кім-жа, апрача?..

А Клемка якраз няўдоўга перад тым зьнік з Баркаўцоў на даўжэйшы час — так і сказаў, «кумпанія» нейкая ў іх мае быць, дык ня будзе часу адвінуцца. Толькі ўжо ладна па паховінах Альжыных паткнуўся ізноў сюды, а да Савосты — і зусім, як спэцкаўшыся... Спогадзь сваю заўдавеламу прынёс, гэткая-ж бо жанчына, гэткая гаспадыня, гэткая «кулітурная»... А вочкі — як у сабакі, доле бегаюць... Адно свой камісарскі наган на паясе чамусь раз-по-раз напраўляе-мацае.

Адылі, Савоста і тады ў думках сваіх да Клемкі так і не дайшоўшы быў — барджджэй нейкі «Зьмей» у яго тут перад вачыма віўся, дарма што вырас Савоста з усяе тае Заблоцкіх роду забабоннасьці. Дык зусім дарма было Клемку круціцца, як скурат на агні, а во добра зусім, зусім у пару, што здаўмеўся старую песьню сваю ўзнавіць: чаго марнавацца тут, у Баркаўцох, Савосту — цяпер наверх — удаўцу і, як палец, аднаму-адзінюткаму? Послух адразу займела цяпер песьня тая ў вушшу і ў душы ў Савосты — у душы апусьцелай, як і хата, што зусім вышасталася — старая ці цеперся ўжо ў вечныя хаты свае зыйшлі, а гэта й апошняя дружба, «летняе ночкі» дар у гадох — за імі туды-ж... Толькі й засталося ў душы тэй, што тое сваё, роднае, хоць і абязьлюдзелае таксама бяз найраднейшых сваіх, але ў груньце такі — адзіны да людзкага мост... Дык што — можа паспрабаваць? Як ня губляе тая пава свайго «пяра залацістага» на наш гразкі, скапытаваны двор — мо злаўчыцца дый выдзерці хоць пёрка з хваста ў таго Клемкавага чырвонага, крывёй маляванага фармазонскага птаха? Дый што больш?

Зубрыцкага ўгаворваць зусім ня трэ было — каб не Савоста, і так ужо ён даўно-б там, із Клемкам, быў. Перапусьціў сваю гаспадарку Савоста швагру — аднаму з прымакоў нябожчыка «пана» Змышлевіча, якому на тэй «панскай» спадчыне, як-бы й ні багатырскаю яна была, а поцесна пачувалася — было-ж іх, прымакоў, там ня ён адзін. Да гаспадаркі-ж хлопец ахвочы, дагледзіць, ня

АЛЕСЬ САЛАВЕЙ

# За Афрыкай зь пяскамі залатымі

(З кнігі: «Несьмяротнасьць»)

### ПАКІНУЎ Я...

Пакінуў я шаблёны сьвет уплываў,
здалося мне — абшар цьвіцеў зарой.
Да заваёваў свайго гэроя вывеў —
змагаўся ён, стаяў за чын гарой.
Але пад клум прыліваў і адліваў
ён спарахнеў, аброс імхом, карой,
паставіў дом ня з цэглы, а з картуны.
падуў віхор — і ўвесь канец фартуны.

### СПАКОЙ

Хачу цяпер ад клуму й каламесы
спакой знайсьці для сэрца і душы.
А мой спакой — бы ветразь той бялесы:
ірвіся ў сьвет, ня знай сьляпой цішы;
пакінь зямлю — рубеж глухі, кумесы,
фальшывы цьвет на зраду ня сушы,
і ня гнібей на зваленай калодзе,
а гымн сьпявай жыцьцёвай насалодзе!

### СЬЦЮЖА

Зьбівае з ног разьюшаная сьцюжа.
У чоўне сноў і сонца ня ўсплыло.
Цяпер ня сьпіш, усё імкнешся дужа
ступіць на дол, ухутаны ў цяпло.
Навошта-ж ты пра заўтра дбаеш, дружа,
калі ў цябе і сяньня ня было?
Надыйдзе змрок — якраз, калі сьвітае, —
і дагарыць надзея залатая.

### ІДЗЕШ, ПЛЫВЕШ

Зы сьвету ў сьвет ідзеш, плывеш і едзеш,
ступаючы ці ў першы новы сьвет.
А паза ім у горы стогне недзе-ж
той кут, дзе быў гаспадаром твой дзед.
Над шэраняй шляхоў бясконцых згледзіш
хаморны змрок і сонца ўсплеск —
прасьвет —
ты думаеш: вакно — ці мо' яшчэ не? —
у дзедаў сьвет — канец тваго мучэньня.

### УЗБУДАМ ХВАЛЬ

Узбудам хваль віраццa гнеўна воды
і пеняцца з распачай пад карном.
Куды плывеш? На час, ці назаўсёды?
Каму, скажы, пакінуў сумны дом?
Нязнаных зор ты бачыш карагоды,
знаёмыя — пад акіянскім дном.
За Афрыкай зь пяскамі залатымі
яны ў душы зіхцяць тваймі сьвятымі.

### ПАЎДЗЁННЫ КРЫЖ

Цябе ніяк ня маніць сон суседаў.
Выходзіш зноў на пострап. Зноў глядзіш:
адылі там — цікавасьць Бог табе даў —
над позіркам гарыць, ня гасьне ўзвыш.
Сярод агнёў, якіх яшчэ ня ведаў,
праменіцца і сам Паўдзённы Крыж.
Пад роўнікам шукай тае плянэты,
дзе зноў над ім апынішся ўва сьне ты.

### ЗОРЫ

Прыслухайся: да высяў клічуць зоры,
між іх і ў іх — і новы сьвет, і ты.
Пад імі — дол няўцешны, і суворы,
над імі — край сьвятлярна-залаты.
І паўтары — ня быў душою хворы
той пілігрым, што ня спыніў ляты
да воддаляў, яшчэ нікім нязнаных,
да зьдзейсьненьняў, бяздушшам не
таптаных

### У ЦІШЫНІ

У цішыні, на ўскраі ночы цёмнай
ты думаў шмат аб сяньняшнім сваім.
Твая вясна пад жальбаю бяздомнай
і адцьвіла, і зьнікла, быццам дым.
А ты з душой юнацкай і нястомнай
ідзеш у дні заўсёды маладым.
І ажыве — хай толькі сілаў стане —
вячорны змрок у заўтрашнім сьвітаньні.

### ЧАЎНЫ
М. С. і А. К.

Пры берагох Вяльлі блакітнаводнай
спыніліся самотныя чаўны.
Мае сябры, за ўцехаю прыгоднай
бяз нас цяпер не паплывуць яны.
Калушыць іх пад зоркаю праводнай
усплескі хваль. А нашы мроі-сны —
ледзь толькі мы павекі прызачынім —
усё лятуць да іх прасторам сінім.

### У ДОБРЫ ЧАС

У добры час — сустрэчаў сьвет цікавы —
адведаў я няскончаны ваш дом.
Няхай у ім былі ўсяго дзьве лавы
і лава ў ім няхай была сталом, —
я ад душы вам зычыў шчасьця, славы
і келіх піў за вас, сябры, нагбом:
за ваш узьлёт, уцехаю спавіты,
за кут бацькоў, у сьвеце незабыты.

### ЗАРА

Nature gives to every Time and Season
Some beauties of its own. (Dickens)

Дабрывечар, Зара! З каляднае ялінкі
цярушацца на дол пухнатыя сьняжынкі.
Успыхваюць агні праменьнем сьвечак-зор —
і гіне зь цемраю нязгода і дакор.
З агнямі цёплымі Зары Сьвятой Вячэры
узносімся і мы да тэй надземнай веры,
дзе неба, і зямля, і ён, і ты, і я —
пад Вышнім Спозіркам сугодная сям'я.
Душы злагодненай усьцешаньняў глыбокіх
стаюцца блізкімі пачуцьці ўсіх далёкіх.
Апошняя сьвяча гарыць, як Прыйсьце
Дня, —
нявіннасьць сьветлая, любоў і цяплыня.

### ВОСЕНЬ
(Р. М. Рылькэ)

Спадару Божа, час настаў: пара
сукрыцца ў сьценях сонечным гадзінам,
пусьціць вятры ў палі красы й дабра.

Дазволь-жа йшчэ ў садох дасьпець пладом,
двума цяплейшымі даруй іх днямі:
няхай нап'юцца вышнімі дарамі —
салодка-цьмяным і густым віном.

Хто страціў дом — таму яго ня мець.
Хто сам — самому й знаць тугі абладу:
пісаць лісты, ня зводзіць з кніг пагляду,
ня спаць, блукаць праз гай, адзеты ў медзь,
пад неспакойным віхрам лістападу.

### СЬВЯТАЯ
(На матыў Р. М. Рылькэ)

У полымі вайны народ марнеў ад спрагі,
сьцюдзёнае вады на'т з падарожнай плягі
ён і глынка ня меў. Дзяўчына — стройны
[стан —
пайшла шукаць ваду, лячыць народ ад ран.
Праз сьпеку, едкі дым малітвы несла Богу,
і стому зносячы, прасіла ўсім спамогу.
Ды вось пагляд застыг на юнаку адным —
ён быў паранены. На твары маладым —
воскова-жоўты сьцень, бясьсільля выраз
[цьмяны.
Сьхілілася яна, перавязала раны,
прынесла ў прыгаршчах крынічнае вады.
Яшчэ вам доўга жыць, юнацкія гады.

### РАЗЬВІТАНЬНЕ

Паставіла на стол букет вясновых кветак
і адыйшла. А я — твайго адойсьця сьветак —
застаўся з горкаю, журботнаю думой;
ты безь мяне, яна-ж — думà Э усьцяж зы
[мной:
навошта ты прыйшла у мой гасьцінны хорам
ня ўцехаю спавіць, а сьціснуць, грудзі го-
[рам?
Бяз сэрца і душы агнём сваіх вачэй
запаланіць змагла. Куды было-б лягчэй
ня ведаць цяплыні, што застаецца лёдам,
ня песьціць пустыша, што вырасьце бяс-
[плодам;
ня быць прывабленым адойшлым ад вясны,
ня бачыць той букет — ня польны, не лясны.

**Алесь Салавей**

РЫГОР КРУШЫНА

### МАЛІТВА ВЫГНАНЦА

Дай мне, Божа, здароўя і сілы,
дай прыгожай вясны Беларусі.
Хай ня ные душа да магілы
у пакутнай самоце і скрусе.
Дай народу ўрадліване збожжа,
захавай яго ў засеках, Божа!
Барані нашых блізкіх і родных,
і наш край у вызвольным змаганьні,
і скараных нявoляй, галодных,
і ўсіх тых, хто цярпіць на выгнаньні.
Барані ад напасьці варожай,
памажы нам зыйсьці з раздарожжа.
Божа, дай сьветлы шлях чалавеку,
Каб ня гінуў слабейшы ў прымусе.
Спраўдзі мары, што носім спрадвеку,
дай прыгожай вясны Беларусі.
Веру: прыйдзе такая часіна —
маці ўбачыць радзімага сына.

*
* *

Як матуля, пяшчотай мяне атулі
і сагрэй праменістым паглядам.
Мне ўжо мроіцца:
роем лятуць матылі, —
а ня сьнег — над аквечаным садам.
Гэта-ж тая вясна, у якой дзяцюком
я сьпяваў залатую заранку.
Ах, завея мяце
белы цьвет за акном.
Апусьці, дарагая, фіранку.
Гэтак лепш.
Гэтак будзе куды спакайней...
Маладосьць заціпліцца... паўстане.
Я пачую ў запеве зімовых завей
нашу чыстую споведзь каханьня.

# Прыйдзе час і на песьню

(Заканчэньне з 4-ай балоны)

йдучы паўз нас,
паэтаў,
сьвет-бы ўсьлед ня кінуў:
« — Чым гэтак жыць,
лепш піць да дна
бяду і зьдзек,
або і згінуць!»

### ПАЭТАМ

Ня крыўдуйце, што вашыя словы
йдуць так часта каменьнем на дно.
Яшчэ ў нерат напяты іх зловяць
рыбары,
пачакайце адно...
Сьвет бязьвінны, што ў чадным хаосе
братабойнай, упойнай вайны
ён забыўся аб ветрах, аб росах,
аб зялёных агнішчах зарніц...
Сьвет бязьвінны, што вочы людзкое
чарады
не красу далячынь
сяньня сочаць,
а лекі на раны,
кут, куды-б ад пакут уцячы.
Боль, які песьняроў разьядае,
ня турбуе нікога...
Баліць
сэрца ў кажнага...
Цяжка-ж, каб зграяй
бед асочаны ў песьню уліп,
захлынаўся паэмай ці одай,
упіваўся шчэ й вашай тугой.
Ня крыўдуйце-ж,
хай людзкасьць пяройдзе
праз дзікі, ненажырны агонь,
хай ачысьціцца з гною і бруду,
ўзьніме ськівы цяжкія павек,
зноў адчуе
як водырыць лубін,
як раса зіхаціць на траве...
А тады —
прыйдзе час і на слова,
што жыць будзе ў вагні і ў вадзе.
І, сьхіліўшы з пакораю голаў,
сьвет прад песьняю ніцма падзе!

**Натальля Арсеньнева**

спусьціць на пшык, дый карысьці ці мала памее, бо не захацеў Савоста зь яго — на Альжыну памяць, казаў — аніякае пасэсаршчыны лічыць. Зубрыцкага-ж гаспадарка — кніжкі адны, дый зь іх «Нивы» з дармовымі дадаткамі — чорт іх цягаць будзе, а «Нашае» — ці-ж так шмат? Дык раз-два і забраў абодвух — Зубрыцкага й Заблоцкага — Клемка-камісар у свой «рэспубліканскі цэнтар» — у Менск, на «адказную нацработу». Новы і апошні этап «дыялёгу» сяброў так і пачаўся.

Пэўна-ж, настаўнік Зубрыцкі адразу ў «народную асьвету» падаўся, спэктарам лёгка на пачатак уладзіў яго Клемка. Савосту-ж па зямельнай часьці пусьціў — меў-жа й сам Заблоцкі вялікае замілаваньне да тае «долі аратага», дык узяўся горача цяпер, каб як памагчы яе на роўныя ногі паставіць. А тут якраз пачыналі ўжо гаварыць пра тое, што й «Наша Ніва» калісь — і пра «культурную гаспадарку», ды нат і пра тыя хутары... І ўлёг у новую, а цікавую працу сваю Заблоцкі — балазе, памагала яна і на тыя дары нядолі пакрысе забывацца, што спустошылі так асабісты ягоны быт...

Колькі поўных працы над сваім, родным — дый здавальненьня ад гэтае працы — год пражылі сябры ў сваім «рэспубліканскім цэнтры», а зь яго, паводля абавязкаў і ахвоты свае, і па цэлай «рэспубліцы» нікаючы — колькі запраўды шчасьлівых кажнаму зь іх год. Зубрыцкі шпарка па службовай драбіне сягнуў, мала ўжо не да камісарства і ён дапінаўся. У партыю, ані думаючы, адразу падаўся, а Клемка моцна падпёр. Савоста-ж ня быў гэткі порсткі, болей ён «нізавую работу» ўпадабаў, па сёлах езьдзіць, «земляўпарадкаваць», падганяць нашых людзёў да культурнае гаспадаркі, да хутароў, пасёлкаў. Шмат дзе закладаў іх, адно што родныя свае Баркаўцы ўламаць ніяк ня мог, навет да пасёлкаў. Што праўда, шкадаваў крыху на сваё роднае мацней націснуць. Але швагру, што на ягонай гаспадарцы сядзеў — дыплём «культурнага» зусім заслужона, бязь ніякага круцельства, выгрыбіў. З партыяй-жа ня лез — і душа не ляжала нек, і гаспадарку зусім рашаць не хацелася. Здаволіўся адно «паліткатаржанствам», марку якога Клемка яму адразу-ж і бяз пытаньня вырабіў сваім такім-жа аўтарытэтам. Сам-жа Клемка-камісар за нейкі год із «рэспубліканскага» аж у «ўсесаюзны» цэнтар перабраўся, на нейкую вельмі-ж адказную, а бліжэй неазначаную — таямнічую «работу» (што за яна — ня вельмі цікава тады сябром было, іншыя былі цікавасьці, а гразы, здавалася, — ніадкуль ніякае). Гэтак яго ў нашых краёх ад тых дат і бачылі.

Борзда тыя колькі год сябром праляцелі. Зубрыцкаму здавалася нат ужо, што ён із таго свайго «першага разьдзелу» і ў другі во-во пераступіць (між іншага, зусім ужо й жаніцца наладзіўся быў дзяцюк, дармо, што ў гадох не малых, ды нек не адбіліся яны на ім, ніхто іх яму й не даваў — праца над сваім жаданым, дый яшчэ праца із задавальненьнем — не старыла, а яшчэ й падмаладжала). Дый Савосту ўжо зусім бачылася, як выдзірае ён (разам із Зубрыцкім дый з цэлаю яшчэ грамадою камратаў, зь якіх аўтар падаваў тут мімабегам колькі сыльвэтак папулярных «нацдэмаў» і нацыянал-камуністых беларускіх) пер'е, як не залацістае, то хоць чырвонае — із хваста таго крывёю маляванага фармазонскага птаха Клемкавага. Ды калі гэта было, каб доля каму-небудзь з Заблоцкіх ды надоўга ўсьміхнулася? Заўсёды-ж нядоля ў іх у галавах. І па колькіх тых шчасьлівых гадох пайшлі часы, перш незразумелыя, а далей і неспакойныя, трывожныя, дый зусім кручаныя. Ізноў «новая нацпаліціка» выходзіла, зусім адваротная й вываротная. Пачалі «нацдэмаў» паліваць, а тады й паляваць...

Аднае летняе начы, душнае і ад надвор'я і ад неспакою таго нутранога, кэркнуў чорны аўтамабіль і пад Савоставым акном. Трэйці раз у сваім жыцьці апыніўся ў турме Заблоччык. «Сьледзтва» павялі, да «нацдэмаў-прышчэпаўцаў» прышчапілі. Перш нек на жарты выглядала, а далей вырысавалася — не пярэліўкі. І нікога памагчы няма. Спрабаваў на таго Клемку паклікацца — гэта-ж ён проста за вушы выцягнуў, і ведае ён, што нічога такоўскага ня мог напракудзіць Савоста, і аўтарытэт мае — недзе там, у цэнтры, хай папытаюцца адно. Дык і вухам не вядуць.

Ажно раз, ужо на прыканцы таго «сьледзтва», цягнуў Савосту «выводной» — што арыштантаў водзіць, на чародны сэанс. Як звычайна, калі пачулася ззаду нечая хада калідорам, завярнуў яго тварам да сьценкі, як належылася ў такіх разох. Але-ж і Савоста навучыўся ўжо гэтак скасавурыцца, каб і тварам да сьценкі стоячы, а дагледзець, хто там ідзе. І ўвесь аж закалаціўся: то-ж Клемка-камісар, дый яшчэ які — з ромбамі на каўняры — гэта-ж ратунак! Пастарэў, праўда, азыс, ацяжэў, ды ён-жа Клемка! І Савоста, забываючыся на ўсё, мала ня кінуўся, як да маткі. Той прыстоіў — пазнаў, незаводна пазнаў, відаць было па ім — ды як вызьвярыцца раптам на таго небараку «выводнога»: «Завярні яму башку к сьценкі, чаво разінулсі? Што-б і цябе тваю атвярнулі, захацелась?» І праўда, мала не адкруціў Савосту тую «башку» асалапелы «выводной». Толькі як цяжкая хада рамбаванага начальства сьціхла зусім, рушылі далей. На тым тое спатканьне і скончылася. Не спрабаваў больш даходзіць ратунку Заблоччык, і яго ратаваць таксама ніхто ані падумаў.

Калі нарэшце із «сьледчае» турмы пхнулі Савосту ў «этапную» — больш знаёмых пачаў спатыкаць Заблоччык. На першага напароўся на называнага браценьніка свайго — цёткі Разэлі Вінцэсіхі найбольшага сынка — таго Юліка самасейку. Раскулачылі небараку, хоць гаспадарка тая — спадчынны Вінцэнтаў дзірванок — пажалься, Божа! Дык на этап у далёкі Котлас чакаў цяпер называны «кулак». А па ім і ўжо родны Савостаў брат — Пархім-гандлёўшчык тут-жа накруціўся. За часы «нэпу» вырас ён быў у запраўднага вялікага камэрсанта — па цэлым па Саюзе канцшахты вёў. Ды меў нюх — у пару «перабудавацца» пасьпеў, у каапэрацыю «пераключыцца». Тут ужо й «засыпаўся» на нейкай апэрацыі з мылам — ізноў забракла гэтага тавару, як «нэп» скончыўся. А які-ж-бы то быў Заблоцкі — Пархім Заблоцкі, гандлёўшчык пагатоў — каб на мыле зарабіць не захацеў? І зарабіў — той-жа «этап». Дык ніяк ня мог сабе даравацьтаго мыла і так знудзеў малодшаму брату свайму Савосту, толькі пра мыла тое гаворку заўсёды і вядучы. Савоста-ж іншага і сабе і сваім дараваць ня мог — таго, над чым і раней часам, ды замала, відаць, галовіўся — бясьсільля, сілы собскае занядбаньня-неназапашаньня. Дык аднойчы, як вельмі-ж ужо із мылам сваім дадзеў Пархім, войстра на яго асыкнуўся: «Ня ў мыле, браце, штука, а ў сіле!» Адно не зразумеў гандлёўшчык свайго малодшага, дармо, што й за хітрэйшага на розум сябе меў, не зразумеў і нат спалохаўся, ці ня з глузду Савоста ехаць пакрысе пачынае, дык ціханька адыйшоў на свае юрцы і пра мыла не зайкаўся больш, сам сабе ў думках толькі бясконца яго мылячы.

Адно калі «спусьцілі» ў этапную Зубрыцкага (а як-жа! І ён, і ў тэй самай «справе», што й Савоста, пэўна-ж!) — «дыялёгам» узяліся сябры за тую праблему сілы, як трэба, узяліся. Але-ж, сілу трэ было зьбіраць, а не разьзяўляцца! Былі-ж магчымасьці, усе магчымасьці былі! А цяпер — куды цяпер — позна...

«Вясна-красна на дварэ» была зусім, калі вывозілі Савосту з роднага краю — туды некуды, дзе вясна ці й бывае калі, а яшчэ, каб «красна»... Тут-жа поўнае ёю было паветра таго досьвітку, калі ўстаўлялі на турэмным дварышчы этап на станцыю гнаць (ганялі досьвіткам заўсёды, каб менш вачэй). І падалося на мамэнт Заблоччыку, што ня этап гэта, а валачобнікі — гэтыя шэрыя людзі зь мяхамі («сідарамі» павастрожнаму) за плячыма. Зараз вось пачынальнік высока завядзе — і «вясна-красна на дварэ» з усіх грудзей грымне...

Ды дзе тыя валачобнікі, дзе тая песьня! Зьвінела яна адно ў самога Савосты ў душы, як калісь, у маленьсьцве, у родных Баркаўцох:

Ды ляцела пава
ды павістая.
Вясна красна на дварэ.
Пагубляла пер'е
залацістае.
Вясна красна на дварэ.

І дармо, што ўсё, дармо што й этап гэты — ізноў, як тады пачынала зьвінець нанова і тая-ж надзея: «ану, можа! Можа калі і на наш гразкі, скапытаваны двор згубіць пава залацістае пяро... Ня век-жа разводзьдзе, і ў гразі-ж ня векаваць будзе».

«— Вясна-красна на дварэ... будзе — ану-ж!»

— Ану, давай! — гукнуў сваё турэмнае-стандартнае канвой, і этап цяжка захлюпаў па тэй-жа гразі векавечнай векавечнымі лапцямі і ўрэдкую — падкоўкамі ботаў...

**Р. Склют**

**В. БІРЫЧ**

# Афрадыта-Ост

**Нявэля**

У вагоне, пэўна, яшчэ можна было знайсьці вольнае месца, але ён знарок застаўся тут, пры вакне ў калідорчыку ля ўваходу. Тут было зацішней, як ні глянь. Навет калі найстрашнейшае — «крымінальполіцай, контроле» — дык і то было больш магчымасьцяў для годнага адступленьня ў той ці ў той бок — зусім далоў, ці ў іншы вагон, ці навет праз гэты, быццам па «дакумэнты». Крыўдна-ж было-б уліпнуць цяпер, у дарозе назад, калі туды — зыйшло ўсё так гладка.

Яно праўда, як цяпер выглядае, ці варта было наагул выбірацца ў гэтае падарожжа за сьвет ды так улегцы, без аніякіх афіцыйных дазволаў і дакумэнтаў, з аднэй толькі згодаю зычлівага, як на вынятак, гаспадара-баўэра («бавора», як перакручваў па-свойму дзядзька Сымон гэты, такі ўсёзначэнны для ўсяго паднявольняга народу «аўслендэраў» і асабліва «остаў», дабрародны тытул непахіснай асновы й апоры вялікай нямецкай нацыі).

Але-ж, няварта было й рыпацца. Яна — зусім зьмянілася да яго, зусім-зусім не такая. Праўда, гэта ўжо можна было-б вычуць самому з апошніх лістоў, зь іхнае неакуратнасьці і ляканічнае, казённае сухасьці мала не афіцыйных адпісак. Дык-жа яно й вычулася папраўдзе, і фактычна-ж толькі й хадзіла — праверыць і пераканацца навочна. Цяпер, здаецца, усё ясна. Застаецца толькі, прыехаўшы, спакойненька вылажыць усё ў лісьце і, бадай, канцы. Будзе прынамся лягчэй, чымся ашуквацца далей, лягчэй, якбы ня было й балюча пры гэтым. Толькі хто ён той, дзеля каго гэтая зьмена? Можа сам Міколка — самы найлепшы, дасконны сябра? Не, барждзжэй за ўсё гэны, чорны. Такі прыкры, агідны яму заўсёды псыхалёгічны тып «сэрцаеда», а на самай рэчы — чысьцюткае вады «блатняка». Ну, але-ж дзяўчаты ў бальшыні сваёй, здаецца, ахвочыя ліпнуць якраз на гэткіх, навет калі й ведаюць добра самі, што чакае іх такая-ж доля, як мухаў на гэтых папяровых істужках, што разьвешваюць Немцы ў хатах улетку. Дый ці такое ў гэтым ува ўсім ужо дзіва? Зусім прыродна, калі ростань такая даўгая й далёкая.

А цяпер будзе яшчэ і поўная. Поўная ростань і поўная адзінота. Яно й лепш, што поўная. Няпоўная заўсёды карціць, цягне ў гэткія вось непатрэбныя й рызыкоўныя падарожжы. І тут, ля вакна, таксама лепш, што на адзіноце. Там, у вагоне, было-б куды прыкрэй — усе-ж прыглядаліся-б і рабілі-б сваю «кантроль» угледлівымі і ўедлівымі нямецкімі вачыма. А хіба цяжка пазнаць? Навет гэтая вопратка — анцуг, што ўдружыла прыхільная «баворава» нявестка, добрая, такая малочна-мляўкая Эльза з плача свайго мужа — цяпер жаўнера. Адразу выдае, што з чужога пляча, дарма, што зусім тутэйшы. Сядзіць на ім, мала не як на тым калку. Добра-б, каб займець собскі, зусім, на сябе шыты эўрапэйскі гарнітур — анцуг. Толькі што з таго? Навет і ў сваім анцугу не прабудзеш-жа ўвесь час зь людзьмі як рыба, змусяць-жа й разьзявіцца. А тут-жа незаўсёды навет і зразумець ухопіш, чаго заманулася таму ці іншаму гэру або фраў, ня кажучы ўжо, каб спраўна й гладка адказаць. Дый навет адзін акцэнт, вымова... А наверх, як кажнаму неспрактыкаванаму злачынцу — навіку, толькі й здаецца ўвесь час, што ўсе ўжо пазналі, ведаюць добра і толькі чакаюць на зручны мамэнт, каб выкрыць, выдаць, злавіць ненавіднага ўсім ім зладзюгу-аўслендэра, можа бандыта, прынамся — паразыта, што прыпхаўся знарок на іхны белы хлеб і аб'ядае бяз жалю й сумленьня, з горла выдзірае, аддзірае ад скупых і так [illegible]ных карткавых «абшнітаў». Бо ня бачыць і ня хоча бачыць ніхто, як робіцца ім-жа гэты агорклы чужы хлеб, робіцца запраўды [illegible] поце аблічча...

Не, не пабыць доўга й тут самому на адзіноце. Вось прэцца — і чаго?.. ды якраз да вакна, да ягонага вакна, як-бы не магла застацца там, дзе была... Праўда, на такія вульгарныя вызначэньні не заслугоўвае ніяк гэтая дзяўчына — маладзенькае, далікатнае, эфэмэрнае проста стварэньне. І навет прыгожая. Яшчэ ўчора аднагодна прыйшлі зь Міколкам да выснаву, што Немак прыгожых няма. Дык хіба даводзіцца перагледзіць прысуд? Ну, выняткі-ж бываюць заўсёды і ўсюды. Запраўды, вельмі прыгожая, навет бездакорна прыгожая, тонка, далікатна-квола і пры тым неяк сарамяжа прыгожая. І на твары, на вуснах ніякага маляваньня: маладосьць і хараство не патрабуюць ані паправаў, ані ўдасканаленьняў, толькі дурная нясмачніна можа дапусьціцца да гэтага. А тут-жа чыстая Афрадыта, вось-вось із шумавіньня морскага народжаная, Афрадыта ў дзявоцтве, не — лепш — Афрадыта гімназісткаю. Бо пэўна-ж яшчэ вучаніца, хоць-бы сабе й апошніх клясаў. Пад гэтым на ўсе гузікі зашпіленым плашчом вычуваецца бранзовы форменны хвартушок, бо толькі ён пасаваў-бы да гэтага глухога каўнерыка ледзь не пад бараду, што відаць знад плашчовага каўняра. На тонкіх пальцах абедзьвюх рук, што зачапіліся за бераг неапушчанага да канца вакна — ніякіх пярсьцёнкаў: яшчэ не заручаная і можа навет не каханка. Пэўна, дрыжоная дачушка старэнькіх таты й мамы — фаті унд муті, якіх-небудзь дробных крамнікаў у сярэднявечным гатычным мястэчку... Ну, але-ж ня выпадае так доўга й пільна разглядаць усупор ды вывучаць, рабіць тую-ж «контроле вачыма», ад якое тут сам хаваецца. І небясьпечна навет... Наагул, ці ня лепш пашукаць зусім вольнага вакна ў нейкім іншым вагоне?

... Ці ёсьць у яго агонь? Агонь то ёсьць... Вось табе і «Афрадыта-гімназістка» — адразу разьбіваецца, гасьне з гэтым «агнём» адтвараны фантазіяй вобраз. Хоць гэтыя Немкі ўсе блізу кураць, ад дзяўчатаў таксама, і да гэтага ўжо тут прывыклася. Гэта толькі дома калісь нек аж ніякава было бачыць жанчыну, дзяўчыну пагатоў курачы. Толькі адкуль яны бяруць? Гэтая-ж мусіць, паводля гадоў, яшчэ й на куртатую жаноцкую раўхэркарту, на собскую, правоў ня мае. А зацягваецца, як сталы курэц. І яе гэта навет ані ня псуе: пэўна-ж, прыгожай — усё прыгожа. Далікатны дымок добрае, даваеннае мусіць яшчэ цыгарэты дражліва казыча ягоны нюх. Сяньня і з гэтым ізноў ані не пашанцавала. На гэнай дурной і глухой станцыі — хоць-бы адзін канчар — «бычок». Гнілая правінцыя. А што — набрацца нахабства раптам і бахнуць, каб пакінула, хоць «сорак»?

Адно, што ў ейнай мове ня знойдзеш такіх спэцыфічных і выразьлівых тэрмінаў напоў «блатных». Хіба было-б — «фірцыг», ці можа «оксляйн»? Бітэ, лясэн зі... Сьмех!..

А ткі праўда мусіць, што думкі могуць перадавацца наводдаль, як праз радыё. Асабліва — думкі курца курцу. Хоць тут барждзжэй простая, звычайная павіннасьць узаемнай ветласьці. Але, ён курыць, ды — шчыра дзякуе: ня стала-б у яго сумленьня эксплёатаваць чужую ветлісвасьць ды рабаваць людзей, асабліва цяпер, калі з гэтым так «кнап» і асабліва тут, у дарозе. Зусім ня так «кнап», як ён можа думае, а што ў дарозе, дык у дарозе-ж усё прасьцей і лягчэй, у дарозе зусім няма патрэбы саромецца й далікаціцца. — А ёй гэта якраз падарунак на дарогу. Няхай-жа ён возьме — «нээмен зі дох». І як тут было ўстояць перад гэтым намагальным нямецкім «дох», дый праўда — чаго так ужо далікаціцца? То пра «сорак» думаў «бахнуць нахабствам», а цяпер ад цэлых ад «сту» адмаўляцца?

Пакручастым дымком дзьвюх цыгарэтаў павілася й перавілася гаворка. Лёгкая ад пачатку, як гэты дымок. А зь ёю адразу пачало гаварыцца гэтак лёгка, як із сваёй і даўна знаёмай. Пэўна-ж, прыгожай — ня толькі ўсё прыгожа, але і ўсё лёгка. І ён зусім няўзнак сабе самому неўзабаве ўцягнуўся, і ад звычайных аднаскладовых мармытаньняў пацьвярджальнага ці адмоўнага характару пачаў удавацца аж у шчырэйшыя й даўжэйшыя выказаньні, ды навет зусім гладка, зрэдку толькі ўдала і ўмела ўспамаганы ейнымі трапнымі ўстаўкамі. Гэта ўжо ня так цяжка — вольна гаварыць панямецку, навет зь ягонай моваю. Трэба толькі адкінуць зусім той «страх мовы». А галоўнае — каб было зь кім гаварыць. Дый тое ўсё, што яна гаварыла, — разумелася таксама адразу й дарэшты. Праўда, і яна як-бы старалася тарнавацца да ягонага разуменьня, дабіраць словы, быць асабліва дабітнай. Ну, але й наагул лягчэй разумець, калі чалавек гаворыць добрай інтэлігэнтнай, літаратурнай мовай, а не якім-небудзь паганым дыялектам, як гэныя «баворы»...

... Прыгожыя мясьціны, ці-ж няпраўда — ніхт ваар? Ці ёсьць такія на ягонай бацькаўшчыне? О, так, гэта-ж адразу пазнаецца, што ён нятутэйшы. З усходу? Яна й сама так падумала адразу-ж. (Вось бачыш! Ну, але-ж хіба дарма — гэтак-ж ніякае не... «крымінальполіцай, контроле»!). На ўсходзе, яна чула, таксама ёсьць вельмі прыгожыя куткі... Ці няма ў яе на ўсходзе каго... каго блізкога? На экране ягонай сьведамасьці, дзесь на заднім пляне і зь нейкім прыкрым адценьням — (зайздроства? І ўжо?) — мільганула выляксаваная постаць завадзкога «арыйца», нейкага лейтэнанта ці як... І шле ёй лісты пра «прыгожыя куткі ўсходу», як той гаспадароў Ганс сваёй малочна-мляўкай Эльзе... (Але-ж на пальцах няма пярсьцёнкаў, сам зацеміў адразу-ж...) — Ці ёсьць у яе хто на ўсходзе? І так, і не... Не, цяпер няма. (Аж адлягло неяк, і зьнік з экрану той франт-лейтэнант? Гэта-ж зусім, як у яго самога — **цяпер** няма. «Родныя душы»?) Ды хто цяперашнім часам ня ведае, ня чуў аб усходзе?

Але, ягоная бацькаўшчына прыгожая. Ды часам зусім-зусім падобная да таго, як тут. Часта — у лесе асабліва — яму здаецца, што ён у сябе дома. Праўда, часта тут бывае яшчэ прыгажэй, як дома, толькі што чужое... — Вось гэта й ня добра — чужое ня можа быць прыгожым, сваё заўсёды найпрыгажэйшае. Ну не, ён із гэтым ня можа пагадзіцца, Вось прыкладам, яна сама... (Адкуль толькі бярэцца гэтае... нахабства?). Ён шчыра мусіць сказаць, што ня бачыў яе, думаў, што зусім няма прыгожых сярод Немак (ну й цяў!). А цяпер ён гатовы прызнаць, што й на бацькаўшчыне ягонай ці знайшлася-б ёй роўная... (Вой-вой! Ну й панёс! Адкуль толькі бярэцца? Дурань, дурань, бот, боўдзіла, «ост» няшчасны!).

Яна засьмяялася, дзякуючы за камплімэнт. Не, ні засаромелася — гэта адразу здалася толькі была сарамяжнай і гімназісткаю. Мусіць, ужо прывыкшы. Каб ведаў — быў у яе адзін знаёмы, навет больш — сябра маленства... Яна абнізіла голас — айн юдэ, Жыд. Дык жаліўся ёй, як даймаюць глыбака яго камплімэнтамі, што ён непадобны да Жыда... — Але, але, ён і сам добра знае гэта на сабе: яму таксама часта спрабуюць лісьціць тым, што непадобны да «ўсходніка» (гэта, каб і яна ведала — цэлая праблема ў іх, «на ўсходзе»: падзел на «заходнікаў» і «ўсходнікаў»...). Толькі ён зусім не хацеў так... (дурань, бот). Не, і яна нічога... На нямецкіх жанчынаў і яна нявысокіх паглядаў. А што да яе асабіста, дык ейная р а с а в а я г о р д а с ь ц ь (падчыркнена) завысокая, каб яе можна было даткнуць зграбным ці нязграбным «камплімэнтам»...

Гаворка абарвалася прыкрымі яму моўчкамі. Здаецца, зарабіў. Ужо й да «расавае гордасьці» дайшло — шануйся, хлопча! А так было ўсё добра — цяпер пакрыўдзілася, пэўна. Ну але — назад у вагон... няхай ён выбачыць на часінку...

Дудачкі. «на часінку» — так ужо яе, мусіць, і бачылі... Выбачэньне-ж толькі звычайная ветласьць, павінасьць ветласьці... Усё папсаваў, сам папсаваў, ідыёта кусок! А як шкода... Якая цікавая і, відаць, глыбокая дзяўчына, ня толькі адно, што прыгожая...

Не, ткі варочаецца назад, толькі ледзь плішчачы вялізны нямецкі сутнік — кофэр. Ну, куды гэта варта, хіба ня мог ён? — Не, дзякуй, яна звыкла заўсёды сама сабе даваць рады. (Зазлавалася ткі?).

Ёй ужо высядаць на наступнай станцыі?, О, не, яшчэ далёка-далёка... А кофэр — праўда, усе свае рэчы — яна прынесла, каб можна было сесьці. На ім так добра й выгадна сядзіцца, будзе й яму месца. Ну, хіба ён паважыцца цясьніць? Але тое самае намагальнае, «дох» пасадзіла поплеч зь ёю, у зусім-зусім цеснай блізіні, што адразу моцным хмелем дала ў голаў. Яна пэўна злуецца на яго, на дурнога? О не, ані. Не, проста ёй заўсёды вельмі прыкра, калі сваё паніжаюць перад чужым. І ён не павінен гэтага рабіць ні перад ёй, ні наагул. Добра?

Гаворка ўзыйшла зноў на ранейшыя рэйкі нязмушанасьці й шчырасьці. О, як умее яна цягнуць за язык, разьвязваць язык, і то зусім няўзнак. І ён выкладаў перад ёй ужо ўсё-ўсё, і пра бацькаўшчыну, і пра сябе. Пра тых... катаў. Яна чула таксама й чытала. Яна верыць, што гэта — зусім не разьдзьмутая прапаганда, як думае шмат хто з тых, што не перажылі самі. Няхай будзе пэўная — гэта яшчэ далёка ня ўсё гаворыцца й пішацца, ніякая не прапаганда. Але цяпер ужо ён разважліва спыніўся перад тым, каб не закрануць і ўсяго, што рабілі й чаго не рабілі там, «на ўсходзе», і мала лепшыя ейныя суродзічы... Няхай, лепш не чапаць гэных пытаньняў, «расавых», а з другога боку —блізкіх і да абсягу «крымінальполіцай»... (Усё можа быць, трэба быць пільным з усякім. І так за гэтай зюканінай зусім забыўся на гэную небясьпеку й кінуў сачыць. Можа ўліпнуць зусім, як рудая мыш... Хіба, што, яна тут, як анел-ахоўнік...).

Дык проста перайшлі на жудасьці вайны й фронту — хто гэтага ня чуў цяпер, хоць і сам можа не заўсёды бачыў? Жудасна, фурхтбар... Дый як ня бачыў? Калі-ж цяпер і тут фронт, усюды фронт. Калі-ж і цяперака во, якга, можа гакнуць і заскавытаць трывога — алярм, люфтгэфар, люфтангрыф... Праўда, што апошнімі днямі неяк сьцішылася, нат на Бэрлін каторы дзень не наляталі — пярэдых. Адпачываюць пэўна, рыхтуюцца да новых навалаў... Толькі над гэтым ня варта лішне сушыць мазгі — алярм на тое й алярм, каб ім загадзя не галовіліся, а адразу, як па галаве... І яму таксама не хацелася алярму, ані так якога-небудзь найменшага закалоту ці замарокі ў мілай такой гаворцы. Дык і ўзгаварылася пра мілае, аж пра інтымнае навет... Нек само сабой вывязалася й пра гэтае падарожжа... Ага, дык вось чаму і яна яму ўспала адразу на вока, што такая ўжо прыгожая (а ткі згадала мусіць, шэльма!). Ну-ну, няхай ён не правуецца й не саромеецца, гэта яна так, жартуе (таксама сьмела, халера!). А тая яшчэ можа адумацца, ягоная сяброўка, адумацца й зьвярнуцца назад да яго. Гэта часта бывае. Пэўна, трэба выявіць цьвёрдасьць, але й захаваць сваю вернасьць, каб умець і памякчэць, калі-б надыйшоў мамэнт. Калі толькі ён запраўды кахае. Кахаў? Гэта ўжо горш. Кахаў — гэта ўсяроўна, што й не кахаў. Няма таго, што ўжо мінулася. Ёсьць толькі тое, што ёсьць сяньня і што — поўная гарантыя — ня мінецца заўтра...

Сядзелі на кофэры поплеч, уставалі й стаялі ля вакна, таксама поплеч-цясьнютка, ізноў сядалі. І гэта ўжо неяк было так, як і трэба. П'яніла, праўда, І час-часом мацней давала ў голаў. Гаварылі ўвесь час і таксама ўвесь час курылі. Яна й гаварыла найбольш курачы, як-бы праганяла дымам словы ці словамі дым. Курыла часта, блізу бязупынна і ўсё частавала яго. Ужо й не адмаўляўся, хоць даўно, а мо й ніколі так шмат ня курыў, і гэта, разам зь ейнай блізінёю, узбуджала яшчэ больш (балазе, хоць, што нямецкія цыгарэты, навет добрыя даваенныя, не такія моцныя). Якімі аднак сібернымі курцамі бываюць гэтыя Немкі, і такія яшчэ маладыя! Праўда, яна пакідала вялікія канчары — «бычкі», але што-ж, калі ўсё — за вакно... Ну, гэта цяпер ужо невялікая сьмеласьць ці нахабства будзе скарыстаць із гэтага: вось, у яго ёсьць адмысловая пушачка, дык чымся выкідаць гэтулькі дабра за вакно...

Сьмяялася доўга й шчыра, дакляравала здаваць яму акуратна ўсе недакуркі ў пушачку. Дык ужо давялося прызнацца, як адразу хацеў папрасіць «сорак». Ну й чаму гэтак не зрабіў — куды гладзейшым быў-бы пачатак, заўсёды лепш, калі першую ініцыятыву выяўляе не дзяўчына... Не, а што да гэтага, дык звычайна яна ня курыць так шмат, хоць і праўда, гэта адно зь ейных... захапленьняў, ці што, і то яшчэ бадай адмалку, калі з гэным сябром маленства... Звычайна ўсё-ж курыцца менш, не таму, каб цяжка было з даставаньнем — ані не, ёй гэта зусім лёгка (так, і ён у гэта верыць, што ёй усё лёгка) — не, наагул лёгка ня толькі ёй, а кажнай дзяўчыне, адно ўмеючы, дастаць што хаця, ня толькі цыгарэты, і навет цяперашнім часам, дый то — нічым ня рызыкуючы й не авансуючыся... Трэба толькі ўмець. Ну, а што ў дарозе — дык-жа заўсёды, як у дарозе, адны — і гэта найбольш — бязупынна ядуць, як ніколі дома, іншыя — зноў — кураць. А яна-ж казала ўжо, што гэтыя цыгарэты ёй падаравалі добрыя людзі якраз на дарогу, дык значыцца, за дарогу іх і спажыць трэба.

Стаяла цяпер ізноў ля вакна, за якім ужо западала цёплая жнівенская ноч. Пакацілася зьнічка на ня зусім яшчэ сьцямнелым, а ўжо пакрысе зорным небе. Як прыгожа, ніхт ваар? Вось яшчэ, колькі разам. Гэта-ж цяпер якраз жнівень, канец жніўня, калі яны ападаюць цэлымі дажджамі. Хіба гэтыя зьнічкі не падобныя да нас — людзей, не — ніхт? — Але, у ваднаго паэты ягонае бацькаўшчыны ёсьць прыгожы вершык аб гэтым. Ці ня можа ён успомніць і прарэцытаваць ёй хоць крышку? Яна хацела-б толькі паслухаць, як гучыць ягоная родная мова. Калі ласка, з прыемнасьцяй. І ён прачытаў ёй Багдановічава «Глянь, як зорка у цемню ляціць» — знаў-жа паэту мала не ўсяго напамяць, як і іншых некаторых, улюблёных. Ёй падабаецца — так мілагучна (камплімэнт хіба?). Ёй навет здаецца, што яна разумее — не, вычувае тое, аб чым тут хацеў сказаць паэта. І яна — бадай з дакладнасьцяй, а ў галоўным, прынамся, зусім беспамыльна — перадала настрой і навет думку верша. Ну, ці-ж не... д'ябліца, ці-ж няпраўда?

**(Заканчэньне ў наступным нумары).**

**В. Бірыч**

## ВЕСЬНІЯ НАДЗЕІ

5Ц

Зацьвілі надзеі
ў ясны дзень вясновы:
людзі-дабрадзеі
дом збудуюць новы.
Будуць маладыя
ладзіць навасельле.
І найду тады я
да іх на вясельле.
А сягоньня сініць
смутак мае вочы.
Сьніцца мне гасьцінец
і сяло на ўзбоччы.
Маё сэрца бачыць
абразы старога.
Мірсьціцца, маячыць
простая дарога.
Чараты над рэчкай
і з каткамі лозы...
і мая засечка
на кары бярозы:
памятка спадзеву,
што калі вярнуся,
соку таго дрэва
смагнучы, нап'юся.
Я нап'юся соку,
і памаладзею.
Так... Нясу высока
веру і надзею.

**Рыгор Крушына**

**МІКОЛА СЭР-ПРУСКІ**

## МОЛАДАСЬЦЬ

Эх, моладасьць, моладасьць, шчасьця пара —
мая ты купальская краска!
Ты — ясная радасьць, уцехі зара,
жыцьця ты чароўная казка.

Я часта цябе ўспамінаю цяпер,
той час разуквечанай долі...
І шкода мне вельмі і сумна бязь мер,
што ты больш ня прыдзеш ніколі.

Прайшла назаўсёды, зьнікла навек,
ўспаміны цямнець пачынаюць...
Забрала каханьне, і гордасьць, і сьмех,
нат ў сэрцы агні патухаюць...

Эх, моладасьць, моладасьць, шчасьця пара —
мая ты купальская краска!
Вярніся назад, хай яшчэ хоць адна
ажыве так чароўная казка!

1952

## НЯ ПЛАЧ, МАТКА

Ня плач, матка, па сыночку
ды ня ўсхліпвай буйна;
не праседжвай кажну ночку —
лепш засьні спакойна!

Будзеш спаць і сон прысьніцца:
прыдзе сын у госьці
на часінку падзівіцца
ў хату маладосьці.

Зь ціхім плачам на парозе
ты яго спаткаеш
і ад шчасьця у трывозе
ціха прывітаеш.

Прыгалубіш, ў вочы глянеш,
возьмеш за далоні
ды у сына распытаеш
аб жыцьці, аб долі.

На аблічча ў твайго сына
цень ўспамінаў ляжа.
І табе ён, сіраціна,
аб усім раскажа.

Дык ня плач, як прыйдзе ночка,
і ўдзень ня журыся.
Лепш ты шчыра за сыночка
Богу памаліся.

1953

**Мікола Сэр-Прускі**

## У СПРАВЕ ЗБОРНІКА ЭМІГРАЦЫЙНАЕ ПАЭЗІІ

**На запытаньне некаторых паважаных Аўтараў выясьняем, што далёка ня ўсе друкаваныя на балонах «Бацькаўшчыны» творы, навет з гледзішча на разьмер друкаванага цяпер зборніка эміграцыйных твораў нашых паэтаў і пісьменьнікаў на чужыне, могуць быць у ім зьмешчаныя.**

**Некаторыя зацікаўленыя ў зборніку прапанавалі зьмясьціць у ім кароткія аўтабіяграфіі й фотоздымкі Аўтараў твораў, надрукаваных у зборніку. На жаль, многія Аўтары, з гледзішча на бясьпечнасьць сваіх родзічаў, што асталіся на бацькаўшчыне, адмовіліся зрабіць гэта. У сувязі з гэтым Выдавецтва ня мае іншага выхаду, як не зьмяшчаць нічыіх аўтабіяграфіяў і фотоздымкаў.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Амэрыканская моладзь пазнае Беларусь

Нястомны прапагандысты Беларусі сярод амэрыканскіх студэнтаў, сп. А. В., дактарант унівэрсытэту ў горадзе Калюмбус, быў запрошаны нядаўна дырэкцыяй сярэдняе школы ў Ашленд прачытаць інфармацыйны рэфэрат для вучняў апошняе клясы аб Беларусі ды аб жыцьці ў савецкім «раю» наагул.

Дакладчыку было вызначана 30 мінут на рэфэрат, пасьля якога было прадбачана 20 мінут на дыскусію й запытаньні. Свой час дакладчык выкарыстаў для высьвятленьня самабытнасьці й апрычонасьці беларускага народу, як нацыі, для азнаямленьня аўдыторыі з нашай гісторыяй ды із сучасным праўным, паводля савецкае канстытуцыі, і запраўдным палітычным і культурным палажэньнем.

Калі дакладчык закончыў свой рэфэрат, адразу пасыпаліся з усіх бакоў шматлікія запытаньні, як ад хлапцоў, гэтак і ад дзяўчат. Хлопцы цікавіліся пераважна палітыкай. Пад уплывам свайго маладога ідэялізму й веры ў праўду й справядлівасьць, юнакі ніяк не хацелі зразумець, чаму гэта вольны сьвет маўчыць, не зьвяртае ўвагі на цярпеньні й пакуты волялюбнага беларускага народу, на сыстэматычнае й безагляднае вынішчэньне яго Масквой у сэньсе нацыянальным, культурным і фізычным, і гэта тады, калі Беларусь навет прызнаная паўнапраўным сябрам Задзіночаных Нацыяў, а таму мае права на абарону з боку дэмакратычнага сьвету. На іхнюю думку, Беларусь мусіць атрымаць поўную незалежнасьць і быць вольнай дэмакратычнай дзяржавай.

Таксама справы штодзённага жыцьця ў савецкай Беларусі нязвычайна цікавілі моладзь. Спорт, танцы, праблемы асьветы, школьніцтва, традыцыі й звычаі, хатняе жыцьцё, свабода веравызнаньня, прэса і г. д., усё хацелі ведаць маладыя «сеньёрс». Юначкі распытвалі пра народныя ўборы, хатнюю дэкарацыю, пра справы сужэнства і г. д.

Моладзь цікавілася й такімі рэчамі: колькі Беларусаў на эміграцыі, як яны зарганізаваныя, хто імі кіруе, ці маюць сваю царкву й колькі іх у Амэрыцы? Пасьля таго, калі даў належныя адказы й зазначыў, што ў штаце Огайё, у Кліўлендзе, ёсьць значная беларуская калёнія, якая часта ладзіць канцэрты, дзе артыстыя выступаюць у нацыянальных вопратках, усе, асабліва дзяўчаты пачалі прасіць адрысу, каб абавязкава пабачыць сваіх беларускіх прыяцеляў. Найбольш цікавых дакладчык мусіў задаволіць паказваньнем фотаздымкаў беларускіх харыстых з Кліўленду ў нацыянальных вопратках, якія меў із сабою. Але вось званок паведаміў аб заканчэньні лекцыі. Усе з падзякай разьвіталіся з сваім новым беларускім прыяцелям — дакладчыкам. Рэфэрат аб Беларусі быў паўтораны яшчэ ў ваднэй клясе, а напасьледак дакладчык мусіў перайсьці яшчэ й у трэйцюю клясу.

Таму нічога дзіўнага, што гэтыя ягоныя рэфэраты сталіся ўжо цэлай падзеяй у горадзе. Ён зараз-жа быў запрошаны ў рэдакцыю мясцовае газэты на інтэрв'ю. Карэспандэнтка, сп-ня Маргарэт Фізгіббонс, мела зь ім даўжэйшую гутарку. Яе асабліва цікавіла наша нацыянальная праблема, імкненьні беларускага народу да свае дзяржаўнае незалежнасьці, гістарычныя факты нашага гаспадарства ў мінулым, дачыненьні да Расеі й да Расейцаў, ды арганізацыі беларускае эміграцыі наагул, а ў Задзіночаных Штатах асабліва, просячы дакладчыка падараваць ёй па адным нумары нашых газэтаў «Бацькаўшчына» й «Беларус», а таксама той інфармацыйны матарыял у ангельскай мове аб Беларусі, які дакладчык меў пры сабе. Просьба ейная была задаволеная.

Відаць, карэспандэнтка сумленна прастудыявала ўвесь гэты матарыял, бо вось зараз-жа на другі дзень, 14 лістапада, у мясцовай газэце зьявіўся вялікі артыкул аб Беларусі пад назовам: «Аўген В. прыпамінае нам Беларусь». Нам тут асабліва прыемна зазначыць, што карэспандэнтка зусім добра прадставіла ў сваім артыкуле нашыя нацыянальныя ідэі, ды аднаўленьне Беларускае Народнае Рэспублікі Актам 25 сакавіка 1918 г. Апрачо таго, яна прадставіла Беларусь як ахвяру расейськага бальшавізму, прыгадала таксама аб нашай культуры, літаратуры й пісьменьнікаў зь Янкам Купалам на чале, аб русыфікатарскай палітыцы Масквы, аб сяньняшнім вынішчэньні беларускае культуры й самабытнага жыцьця. Бальшавіцкае эканамічнае рабаўніцтва на Беларусі знайшло таксама сваё месца ў артыкуле, не гаворачы ўжо аб тым, што карэспандэнтка насамперш прадставіла чытачом газэты самога дакладчыка, зазначаючы, што ён у свой час перажыў усе жудасьці бальшавіцкіх лягераў, а цяпер зьяўляецца дактарантам амэрыканскага ўнівэрсытэту.

А. М.

# Беларуская Сэкцыя пры Цэнтры Усходніх Студыяў

Ідучы шляхам рэалізацыі намечаных плянаў і пашыраючы поле сваей дзейнасьці, Цэнтр Усходніх Студыяў у Мадрыдзе павялічыў апошнім часам лік сваіх сэкцыяў, творачы афіцыяльна з днём 1 лістапада 1953 г. беларускую сэкцыю.

Вышэй успомнены Цэнтр дыспануе даволі багатай бібліятэкай, — праўда, беднай у беларускія выданьні. Цэнтрам выдаецца паважны квартальнік у гішпанскай мове пад назовам «Орыентэ».

Падаючы да ведама гэтую вестку, ёсьць неабходным зьвярнуцца з просьбай і заклікам да ўсіх беларускіх арганізацыяў і выдавецтваў, каб прысылалі ў названы Цэнтр усе свае выданьні й публікацыі. Ёсьць моцна пажаданым, каб прысылаліся ня толькі кніжкі, часапісы й газэты, але так-жа абежнікі, камунікаты і пад.; адным словам усё тое, што толькі ёсьць вынікам і адлюстраваньнем пазытыўнае дзейнасьці беларускіх індывідуальных і грамадзкіх адзінак. Асаблівы заклік ськіроўваецца да беларускіх выдавецтваў Канады і Аўстраліі, адкуль яшчэ тут у Гішпаніі, нічога яшчэ не атрымоўвалася й не атрымоўваецца.

Просіцца наагул прыслаць, па магчымасьці, поўныя камплеты ўсіх дасюлешніх выданьняў.

Адрас Цэнтру наступны: Centro de Estudios Orientales, Seccion Belorrusa, Conde de Cartagena, 17 (Colonia del Retiro), Madrid. Espagne.

У выпадку, калі будзе перасылацца большая колькасьць паасобнікаў з мэтаю перадачы іх у іншыя гішпанскія бібліятэкі й навуковыя ўстановы (пажадана ад 5 да 8 экз.), тады просіцца адрасаваць на адрас беларускае студэнцкае арганізацыі: Donoso Cortes, 63. Madrid.

Я. С.

# АБН ідзе да канчальнага развалу

**(Заканчэньне з 7-ай балоны)**

1953 г. група Астроўскага зложыла заяву з просьбай аб прыняцьці ў склад АБН і што яна і была туды прынятая 21 студзеня 1954 г. «бальшынёй аднэй трэйцяй галасоў», хаця тыя сябры АБН, якія гэтую «пастанову» чыталі, ніяк ня могуць сабе прыпомніць, каб калі-небудзь такая пастанова на паседжаньні АБН прыймалася наагул, ані аб тым, каб калі-небудзь сярод іх зьбіраліся подпісы за прыняцьцем гэтае групы.

Сярод беларускага грамадзянства адна-адзіная мала колькасная групка А. Каханоўскага з пад знаку Аб'еднаньня Беларускіх Нацыянал-Дэмакратаў яшчэ й дагэтуль захопліваецца дзейнасьцю АБН і ягонай тактыкай. На маргінэсе цікавым будзе адцеміць, як будзе чуцца гэтая група ў супрацоўніцтве й блізкім суседзтве з Астроўскім ці ягоным Зарэчным, як сябрамі АБН?

Пачынаючы з 28. 12. 1953 г. сп. Стэцька стараецца сабраць подпісы паасобных сяброў АБН, што быццам весткі, якія паявіліся ў прэсе («Українські Вісті», «Бацькаўшчына» і інш.) пра АБН, нязгодныя з праўдай і што ўсе тыя сябры саліда-рызуюцца зь ягонай дзейнасьцю й паводзінамі, як прэзыдэнта АБН, каб потым такую заяву абвесьціць а сваей партыйнай прэсе і гэтым сябе ачысьціць перад усякімі закідамі. Але каб адкінуць хвальш і ўстанавіць праўду, ці-ж патрэбныя подпісы сяброў АБН? Для гэтага хапіла-б самых фактаў. Але, на жаль, іх няма. Артыкулы аб шкоднай і незаконнай дзейнасьці АБН паявіліся ў украінскай і беларускай прэсе ўжо больш як месяц таму назад, аднак запярэчаньня з боку кіраўніцтва АБН ня было ніякага. Між іншым, адзін із блізкіх супрацоўнікаў сп. Стэцькі быў сказаў: «Праўду запярэчыць цяжка, а таму й маўчаць нашыя бандэраўцы. Усё, што аб гэтым пісалася, на жаль, праўда».

Р. С.

**АД РЭДАКЦЫІ: Украінскія абэзнаўскія колы камэнтуюць апошнія выступленьні дэмакратычнай бальшыні АБН супраць ягонага таталітарнага кіраўніцтва як супрацьукраінскія выступленьні. Супраць гэтакага камэнтаваньня ўжо былі выступілі станоўча «Українські Вісті», сьцьвярджаючы, што сярод працаўнікаў сяньняшняй палітыкі АБН знаходзяцца й выпрабаваныя прыяцелі Украінцаў. Супраць такога камэнтаваньня ня менш станоўча выступаем і мы, заяўляючы, што нашыя нэгатыўныя дачыненьні да цяперашняга кіраўніцтва АБН ня маюць нічога супольнага з нашымі паглядамі й дачыненьнямі да ўкраінскага народу й украінскага грамадзянства на эміграцыі. Мы стаялі й надалей будзем стаяць на становішчы, што Украінцы зьяўляюцца натуральнымі саюзьнікамі Беларусаў і ў залежнасьці ад гэтага вялі й будзем весьці нашую палітыку.**

**Беларускае грамадзянства дагэтуль апраўдывала прысутнасьць беларускай дэлегацыі ў АБН выключна з гледзішча на ейныя намаганьнямі, ведзеныя разам зь іншымі дэмакратычнымі арганізацыямі й прадстаўнікамі ў АБН, у кірунку аздараўленьня АБН і прывярненьня яму характару дэмакратычнай і законнай арганізацыі. Апошнія падзеі ў АБН дастаткова паказалі, што кіруючая кліка ў АБН на шлях гэтага аздараўленьня ўзыходзіць і ня думае. А таму далейшае прабываньне ў АБН беларускай дэлегацыі трэба ўважаць за лішняе.**

### РАЗВАЛЬВАЕЦЦА І КЦАБ КЕРЭНСКАГА—МЕЛЬГУНОВА

Даведаемся, што 12 сьнежня 1953 г. грузінская фэдэралістычная група КЦАБ-у Керэнскага-Мельгунова, на чале якой стаіць др. Вепхадзэ, паведаміла Мельгунова аб сваім выхадзе зь ягонага КЦАБ-у. На гэта былі розныя прычыны, але галоўным было тое, што цяперашнія верхаводы КЦАБ-у занялі такую адзінанедзялімскую лінію, што навет для «фэдэралістых» няма там месца. Калі нядаўна было пастаноўлена выдаваць за грошы НТС афіцыйны ворган КЦАБ-у «Вольная Расея», др. Вепхадзэ зажадаў, каб прадстаўнікі нерасейскіх народаў КЦАБ-у маглі свабодна высказваць свае думкі аб будучыні нерасейскіх народаў. Гэтае дамаганьне спаткалася з такой гвалтоўнай адмовай з боку кцабаўскіх верхаводаў, што грузінскія фэдэралістыя былі змушаныя пакінуць гэтую арганізацыю.

# Справаздача

**БЕЛАРУСКАГА ЖАНОЧАГА ЗГУРТАВАНЬНЯ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ ЗА II ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1953 Г.**

**ПРЫХОД**

| | |
|---|---|
| 1. Астача зь 1-га паўгодзьдзя | 64,28 ДМ. |
| 2. Атрымана ад: | |
| Сп. Норыка М. з Амэрыкі | 83,40 „ |
| Згуртаваньня Беларусаў у Вікторыі (Аўстрал.) | 90,85 „ |
| Беларусаў з Брадфорд (Англія) | 71,40 „ |
| Сп. А. Лашука (Англія) | 3,85 „ |
| Сп-ва Савёнкаў (Амэрыка) для вязьня | 20,50 „ |
| БАЗА, Саўт Рывэр | 354,45 „ |
| БАЗА, Спрынгфільд | 83,40 „ |
| Беларусаў зь Вікторыі праз Сп. Мікуліча (Аўстр.) | 183,25 „ |
| БАЗА, Чыкаго, праз Сп. Махнач | 145,95 „ |
| БАЗА, Чыкаго, праз Сп. Махнач | 62,55 „ |
| Сп. Н. Барт (Нямеччына) | 20,00 „ |
| Сп. Гавенчыка (Аўстр.) на ялінку дзецям у Розэнгайме | 44,70 „ |
| БАЗА, Кліўлэнд, праз Сп. Чэрнік | 250,20 „ |
| Сп. Чабатара К. (Аўстралія) для М. і В. | 21,50 „ |
| Разам | 1500,20 ДМ. |

**РАСХОД**

| | |
|---|---|
| 3. Дапамога грашыма: | |
| Амбэрг 2 асобам па 10 м. 1 ас. — 20 м. | 40,00 ДМ. |
| Санаторыя Гагн 2 ас. па 20 м., 1 ас. 10 м. | 50,00 „ |
| Ваттэнштэт 2 ас. па 10 м. | 20,00 „ |
| Штэтэнгофэн 1 ас. 10 м | 10,00 „ |
| Дэгэндорф 1 ас. 10 м. | 10,00 „ |
| Пасаў 1 ас. 10 м. | 10,00 „ |
| Розэнгайм 1 ас. 20 м., 2 ас. па 10 м, 1 ас. 15 м. | 55,00 „ |
| Штраўбінг 1 ас. 30 м. | 30,00 „ |
| Штітгаўзэн 1 ас. 10 м. | 10,00 „ |
| Вольтэрдынгер (бальніца) 1 ас. 10 м. | 10,00 „ |
| Санаторыя Гаўтынг 9 ас. | 110,00 „ |
| Дорнштадт 1 ас. 10 м | 10,00 „ |
| Хвораму Дудзе | 10,00 „ |
| Мюнхэн 1 ас. 10 м. | 10,00 „ |
| Сп. Гоху ад сп. Белямука | 20,00 „ |
| Сп. сп. М. і В. ад Сп. Чабатара | 21,50 „ |
| Куфштайн 1 ас. 20 м. | 20,00 „ |
| Разам | 447,35 ДМ. |
| 4. Выслана 67 прадуктовых пачкоў на суму | 695,38 ДМ. |
| у наступныя лягеры: Людвігсфэльд, Ватэнштэт, Нойштадт, Пассаў, Вайдэн, Лянсгут, Рэгенсбург, Інгольштадт, Дэшынг, Браўншвайг і Фурт. | |
| 5. Кошт апакаваньня і высылка пачкоў | 47,07 „ |
| 6. Аплата за атрыманыя пачкі | 17,80 „ |
| 7. Карэспандэнцыя і аплата за высылку грошаў | 16,20 „ |
| 8. На ўладжаньне ялінкі для дзяцей у Розэнгайме | 44,70 „ |
| Усяго выдана | 1264,50 ДМ. |

**Прыход адзяжовых пачкоў**

Атрымана ад:

Сп. Н. Барт (Нямеччына) 2 пач., З. Б. М. Кліўлэнд — 2 п.

Сп. Жызьнеўскай (ЗША) — 2 п., Сп. Махнач (Чыкаго) — 2 п.

А. Сіповіча (Англія) — 1 п., Сп. Даніловіча (ЗША) — 1 п.

Сп. Н. Сьпічонак (ЗША) — 1 п., Сп. Русака (ЗША) — 2 п.

Усяго атрымана трынаццаць (13) пачак.

З атрыманае вопраткі выслана 26 пачкоў у розныя лягеры.

**Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне гэтым складае шчырую падзяку ўсім ахвяравальнікам ад імя свайго собскага, як і ад імя ўсіх тых, што скарысталі зь іхных ахвяраў.**

**Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне у Нямеччыне**

### НА ФОНД БЕЛАРУСКАЙ КНІЖКІ

**(Працяг)**

**17. Падпісны ліст № 7, зьбіральнік сп. П. Чопчыц:** I. П. Чопчыц — 5 канадыйскіх даляраў, 2. В. Ждан — 3, 3. У. Станкавіч — 2, 4. П. Воран — 2, 5. В. Сьпічонак — 3. **Разам 15 даляраў.**

**18. Падпісны ліст № 13а, зьбіральнік сп. Я. Жучка:** 1. А. Міцкевіч — 850 бэль. франкаў.

**19. Падпісны ліст № 16, зьбіральнік А. Калодка:** 1. М. Нікан — 1 аўстралійскі фунт, 2. А. Калодка — 1. **Разам 2 фунты.**

**Усім, што далі складкі на Фонд Беларускае Кніжкі, як і зьбіральнікам складак, Выдавецтва шчыра дзякуе.**

**Адначасна напамінаем, што зьбіральнікі складак на падпісныя лісты № 4, 11, 12, 14, 14а і 20 дагэтуль не зьвярнулі нам ані падпісных лістоў ані сабраных на іх грошаў. Просім зрабіць гэта безадкладна.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

### КАМУНІКАТ АБ'ЕДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ РАБОТНІКАЎ У ФРАНЦЫІ

Дня 14 лютага 1954 г. а гадз. 15 у памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату, 26, Rue de Montholon, Paris 9, (мэтро «Cadet») адбудзецца 9-ты гадавы Зьезд Беларускіх Работнікаў у Францыі з наступным парадкам дня: 1. Адкрыцьцё, 2. Выбары прэзыдыюму, 3. Выбары мандатнай камісіі, 4. Справаздача ўступаючай Управы, 5. Справаздача Нагляднай Рады, 6. Дыскусіі над справаздачамі, 7. Плян працы на будучыню, 8. Вольныя прапазыцыі, 9. Рэфэрат (Весткі зь Беларусі), 10. Заканчэньне.

Дэлегаты ад Сэкцыяў, а таксама сябры, якія ня змогуць прыехаць на Зьезд, хай прышлюць свае мандаты іншым сябром, якія будуць на ім прысутныя.

**Галоўная Управа Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі.**
**М. Наўмовіч**
**Старшыня**

### ЗЬМЕНА АДРАСУ ЧАСАПІСУ «ЗЬНІЧ»

Новы адрас беларускага рэлігійна-грамадзкага часапісу «Зьніч» цяпер наступны: Roma, via della Traspontina 18.

# Калядны Вечар у Беларусаў у БуЭнос АйрЭс

Сёлетні калядны вечар Беларусы Аргентыны адсьвяткавалі вельмі ўдала, а магчыма найлепей за ўсе папярэднія гады. Гэты традыцыйны вечар быў ладжаны Ўправай Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне 9 студзеня ў памяшчэньні Летувіскага Клюбу ў Буэнос Айрэс.

У прыгожа й пасьвяточнаму прыбраным салёне зь ялінкаю на сцэне, якая нам прыпамінала нашыя запраўдныя ёлкі, усе прысутныя занялі месца за вялікім агульным сталом. Старшыня ЗБА сп. Васіль Казлоўскі вельмі міла прывітаў прысутных, жадаючы шчасьлівага Новага Году, пасьля чаго загрымеў беларускі патрыятычны марш «Пагоня». Пазьней забраў голас сп. К. Мерляк, які зьвярнуў асаблівую ўвагу на захаваньне нашых сьвяточных беларускіх традыцыяў, заклікаючы ў першую чаргу бацькоў выхоўваць у гэтых традыцыях сваіх дзяцей.

Пасьля прайграньня некалькі плітак зь беларускімі народнымі песьнямі, паявіўся на залі дзядок зь вялікай барадою і мяшком за плячыма. Ён расказваў, што прыбыў з Бацькаўшчыны, а па дарозе наведаў краіны, дзе жывуць Беларусы, і гэтак напасьледак завітаў і ў Аргентыну, каб адведаць малых беларускіх дзетак у гэтай краіне. На ягоныя запытаньні, што яны за гэты час навучыліся, дзеці пачалі паказваць, што умеюць: адныя хрысьціліся, другія гаварылі малітвы, найменшыя пачалі навет плакаць, а некаторыя прыгожа дэклямавалі беларускія вершы. З гэтых апошніх на ўвагу заслугоўвалі Алена Зарэцкая і брат зь сястрою Сакалоўскія, дзеці ў веку ад 4 да 6 гадоў, якія вельмі ўдала прадэклямавалі па адным беларускім вершы. Як узнагароду, дзед раздаў дзецям падаркі, што прынёс з сабою.

Пасьля вячэры адбыліся сяброўскія танцы. У міжчасе госьці выслухалі выступленьне нашай салісткі Мальвіны Бычкоўскай, якая, пры акампаньямэньце свайго брата Ўладзімера, прапяяла некалькі беларускіх песьняў, у тым ліку й незабыўныя «Нёман» і «Васілёчкі».

**К. Мацкевіч**

# ШУКАЮЦЬ

**Раганцэвіча Юльяна** і **Раганцэвіча Фэлікса,** якія радзіліся ў в. Адамова Вішнеўскай вол. Валожынскага павету і выехалі ў 1918-1919 г. у ЗША ды праўдападобна пражываюць у Нью Ёрку, шукае Язэп Раганцэвіч сын Сымона. Весткі слаць на адрас: Association Bielorussa en la Argentina, c. Coronel Sayos 2981, Valentin Alsina, Buenos Aires. Argentina.

*

Дзядзьку **Канстанціна Мядзьведзя,** зь в. Асіпаўшчына, Гарадзейскай воласьці Нясьвіськага павету, які перад апошняй вайной выэміграваў у Францыю й працаваў у капальні солі ў Эльзасе-Лётарынгіі, шукае Аляксандар Грушэўскі. Весткі слаць на адрас: (13b) Rosenheim, Amselweg 14, Regierungslager. Deutschland. **Пісьмо ў Рэдакцыю**

*

**Брата Кіраенку Васіля,** нар. 1920 г., зь вёскі Плаўнік Чашніцкага раёну, які служыў на пачатку вайны ў чырвонай арміі, шукае брат Іван. Весткі слаць на адрас:

Mr. I. Kirajenko, Rue Ferd. Nicolay 81/2 Seraing s/M. Belgique.

*

**Адама Таранду** зь мястэчка Ляхавічы Баранавіцкай акругі, які праўдападобна знаходзіцца ў Канадзе, шукае Пятрусь Шкляньнік. Весткі слаць на Прадстаўніцтва «Бацькаўшчыны» ў ЗША.

*

**Аплата за пошукі:** адзін міжнародны паштовы купон за кажныя два радкі друку.

### ПАДЗЯКА

**Усім Беларускім Арганізацыям і паасобным Грамадзянам, што прыслалі Рэдакцыі «Бацькаўшчыны» й ейным рэдактаром каляднія й новагоднія пажаданьні, выказваем на гэтым месцы нашую шчырую падзяку.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
a) **Zygfryd Puzowski,** 158, rue Jules Guesde Levaillois-Perret (Seine).
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
b) **Mr. L. Pašynkouski,** 60 Stawell St. Burnley, Melbourne, Vic., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
**Mr. W. Nowicki,** 142 Gladstone Ave, Toronto, Ont.
b) **Mr. Franz Hankievich,** 3701 St. Dominique St., Montreal, Q.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave. Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў просім усіх нашых Прадстаўнікоў выручаныя за газэту грошы, як і за выдадзеныя «Бацькаўшчынай» кніжкі, перасылаць на адрас нашага фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі:**
**Janka Žučka,** 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.